

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 27 (13559)

29 чэрвеня — 5 ліпеня 1992 года

Цана 3 рублі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| "ЭКАНОМІКА" "Паміж рублём і талерам". "Круглы стол". | "ГІСТАРЫЁГРАФ" "Гаспадыня Масковіі" Гістарычны нарыс з жыцця XVI стагоддзя. | "РОДНАЕ СЛОВА" Да 110-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы. | "ЛЕСВІЦА Ў НЕБА" Спрэчкі вакол наступу каталіцызму на Беларусь. | "НОТНЫ АРКУШ" Музычная газета— пра музыку і не толькі. | Фантастычнае апавяданне Вольгі Акуліч. |
| 4 | 7 | 8-9 | 10 | 13-14 | 16 |

## "Белае сонца" СНД

У ГЭТЫ ДЗЕНЬ — дзень сустрэчы на ўрадавым узроўні прадстаўнікоў краін — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў, у вестыбюлі дома па Кірава, 17, у якім размяшчаецца Рабочая група СНД, працаваў кіёск "Саюздруку". Журналісты, "афіцыйныя асобы", ахоўнікі, міліцыянты сілкавалі сваімі асобамі невялічкую, але даволі спрытную чаргу. Усеагульную ўвагу прыцягнуў, відаць, спёхам спечаны значок. Ягоную выяву вы, шаноўнае спадарства, бачыце на фотаздымку, змешчаным побач з гэтымі радкамі. Паколькі майма ў газеце чорна-белы адбітак, распавядзём пра значок, згодна з колерам арыгінала. Над трыма вялізнымі блакітнымі літарамі "С", "Н", "Д" паўстае белае эмалевае сонца — ад яго разыходзяцца выгравіраваныя прамяні. Карацей, задума аўтараў — звязаць у сімвалах узнікненне СНД з узыходам сонца, заранкам новага жыцця. Перад намі — ці то "белае сонца" СНД, ці мо "садружнасць узыходзячага сонца" (сказаць "Краіна ўзыходзячага Сонца", самі разумееце, рызыкоўна). Каштуе адштампаваная ў метале немаведама па чыіх эскізах грандыёзная задума 11 рублёў. Гэта выклікала ва ўсіх пакупнікоў здзіўленне ды жартачкі кшталту — па рублю з носа кожнай рэспублікі — іх уваходзіць у СНД, як вядома, 11. Хто абураўся дарагоўляй, хто жартаваў пра палітычную абгрунтаванасць, але значок набывалі: мажліва рарытэт, хоць безгустоўнасць і кічавасць ягоная амаль анекдатычныя.

Мы паспрабавалі правесці невялічкае расследаванне — адшукаць вытворцаў гэткага шэдэўра спажыўмастацтва. Не выключана, што нехта з "абцяжараных адказнасцю" даў дабро на штампоўку міні-сімвалаў саматужнага кшталту.

Аднак у прэс-службе Рабочай групы СНД нам сказалі пра значок: "Абракадабра нейкая". Ягоны ж кошт — 11 рублёў — выклікаў, як і ў нас, непрыхаваны смех і кепікі. Усур'ёз было дададзена: паводле звестак прэс-службы, Рабочая група да вытворчасці такой "дробнай розніцы" ніякага дачынення не мае. Але нехта ж, прабачце, вычаўп гэткую прадукцыю, прадаў яе пад дахам Рабочай групы ў дзень сустрэчы на вышэйшым узроўні і... зарабіў няблага. Бо калі ёсць хоць нейкая супольнасць — самы час узяцца за стварэнне агульных сімвалаў.

Алена Агібалава.

Рэпартаж з Мінскай сустрэчы чытайце на 3-й старонцы.

## 3 ліпеня — 48-я гадавіна вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



З гэтай нагоды ўчора ў Палацы спорту адбыўся ўрачысты сход, на якім прысутнічалі ветэраны, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і проста тыя людзі, якім неабыякава мінулае нашай Беларусі. На сходзе былі выказаны словы падзякі, віншаванні тым, хто амаль паўвека назад выратаваў будучае ад рабства.

А сёння будуць ускладзены вянкі да абеліска на праспекце Машэрава, да Вечнага агню на плошчы Перамогі, на Кургане Славы.

*Неруш*

## "Эказбор-92"

Нягледзячы на ўсе матэрыяльныя цяжкасці, рэспубліканскі экалагічны цэнтр правёў чарговы экалагічны збор вучняў сярэдніх школ. Ён адбыўся 3—16 чэрвеня на Мінскім моры.

У "Эказборы-92" прынялі ўдзел вучні са школ Мінскай, Брэсцкай і Магілёўскай абласцей, а таксама з Мінска. Навучэнцы пазнаёміліся з асаблівасцямі прыроды раёна.

Удзельнікі збору вучыліся рашаць сучасныя экалагічныя праблемы. Напрыклад, пасля знаёмства з рэспубліканскім арніталагічным заказнікам "Лябяжы" яны самастойна зрабілі вывад, што заказнік у існуючым цяпер выглядзе не адпавядае свайму прызначэнню. Гэта заключэнне яны абгрунтавалі тым, што заказнік размешчаны непасрэдна каля ажыўленай аўтастрады Мінск—Маладзечна, доступ у яго не толькі не закрыты, але нават нічым і нікому не абмежаваны.

Застаецца дадаць, што прайшоў збор на базе санаторыя-прафілакторыя Беларускай політэхнічнай акадэміі, дзе былі створаны ўсе ўмовы як для працы, так і для адпачынку. Апошняе вельмі значна для рабят з забруджаных радыенуклідамі раёнаў Магілёўшчыны.

Э. Самусенка.

*Правінцыйная хроніка*

### ДЗЕВЯНОСТА — НЕ СТАРАСЦЬ

Орша. Палац культуры чыгуначнікаў. Мясцоваму народнаму драматычнаму тэатру споўнілася дзевяноста гадоў. Дзевяноста — не старасць. Доўгажыхар — у добрай мастацкай форме, у актыўным пошуку. Пры тэатры ўзнікла маладзёжная студыя "Ступені". А ў перспектыве мяркуецца стварыць у горадзе свой драматычны тэатр, ядро якога складзе калектыў тэатра чыгуначнікаў і, вядома, яго кіраўнік, выпускнік Мінскага інстытута культуры Васіль Мігаль.

### ЛЮДНА У ПАНА НА ДВАРЫ

Ля былога маёнтка пана Дубашынскага, што ў Глыбоцкім раёне, зноў людна. Першымі прыйшлі сюды дзеці — следапыты з Прошкаўскай сярэдняй школы. Закінутую будыніну чакае вялікая рэстаўрацыйная работа. На базе маёнтка, у маляўнічым кутку Глыбоччыны, неўзабаве будзе створаны раённы экалагічны запаведнік.

### ЯК ЛЯ ВЁСКІ ЛЯ СТУКАНЫ ПАЗДЫХАЛІ ТАРАКАНЫ...

А на Талачыншчыне будуюць іншыя запаведнікі... Тут, ля вёскі Стуканы, нічога іншага не прыдумалі ўзвесці, як... комплекс па ўтылізацыі і захоўванню таксічных рэчываў. Як даўней, калі помніце, па Стакгольме, так зараз па Талачыне вандруе адозва. Людзі збіраюць подпісы за права памерці сваёй, а не таксічнай смерцю.

Падрыхтаваў Уладзімір Міхно.

## *Стоп-факт*

### "УСХОД-ЗАХАД-ПОЎНАЧ-ПОЎДЗЕНЬ"

Так называецца міжнародны ўніверсальны беларускі кірмаш, які праходзіць у Мінску з 1 па 3 ліпеня ў выставачным комплексе на праспекце Машэрава. Арганізатары яго — Саюз прадпрымальнікаў Беларусі, фірма "Мінскі кірмаш", акцыянернае таварыства "Цэнтр — XX век", Мінгарвыканкам і таварыства з абмежаванай адказнасцю "Белінтэкс". У таргах бяруць удзел каля трохсот арганізацый з усіх краін СНД.

Радуе, што ўпершыню дзяржаўныя прадпрыемствы на кірмашы прадстаўлены больш, чым камерцыйныя структуры. Гэта гаворыць пра тое, што заводы і аб'яднанні, страціўшы апеку розных спонсараў, самі пачалі шукаць рынкі збыту і крыніцы сыравіны.

### СВЯТА МОЛАДЗІ

У апошнюю нядзелю чэрвеня ў гарадах рэспублікі прайшло свята моладзі. Арганізатарам яго выступіў Саюз моладзі Беларусі.

Літаральна ўсе пляцоўкі парку Чалюскінцаў у МІНСКУ былі аддадзены прафесійным і самадзейным артыстам, якія некалькі гадзін радавалі людзей сваёй творчасцю. А вечарам — дыскатэка.

На ГОМЕЛЬШЧЫНЕ Дзень моладзі святкавалі разам юнакі і дзяўчаты Беларусі, Расіі і Украіны. Ля манумента "Дружба" адбыўся мітынг, у якім прынялі ўдзел прадстаўнікі адміністрацый суседніх рэгіёнаў, ветэраны. А на заканчэнне прайшла вялікая спартыўна-канцэртная праграма.

У ГРОДЗЕНСКАЙ ВОБЛАСЦІ юнакі і дзяўчаты з Астравецкага і Ашмянскага раёнаў правялі сумесны турзлёт.

У ЛЁЗНА, што на Віцебшчыне, месцам свята стаў практычна ўвесь райцэнтр. Гульні для дзяцей, спартыўныя спаборніцтвы, канцэрты маладзёжнага цыганскага ансамбля "Шатрыца" са Смаленска і ВІА "Вакзал" з Віцебска. Усе затраты на правядзенне свята ўзяў на сябе райвыканкам.

А ў ЧЭРВЕНІ (Мінская вобласць) уладальнікі шчаслівых білетаў маладзёжнай латарэі пакідалі свята з салідным выйгрышамі: стэрэамагнітафонамі і самаварамі, міксерамі і вырабамі з крышталю. Астатнія таксама былі не ў пройгрышы і цудоўна правялі час: дзякуючы студыі "Творчасць", створанай пры ЦК СМБ, адбылася вялікая канцэртная праграма, у якой выступілі зоркі беларускай эстрады.

### "ЛІМІТКІ" НА БЕНЗІН

Мы ўжо прывыклі да талонаў. На цукар і гарэлку, на цыгарэты і макароны, на муку і крупы... А з серады (г.зн. з 1 ліпеня) пачаліся, напэўна, галаўныя болі ў тых, хто мае аўтамабілі і матацыклы. Бо менавіта з гэтага дня ў Беларусі ўявіліся лімітныя карткі спажыўца на атрыманне бензіну аўтаматааматарамі.

Як паведамілі ва ўпраўленні Дзяржкамнафтапрадукта Беларусі, мера гэта вымушаная і прынята ў сувязі з вывазам вялікай колькасці паліва ў Прыбалтыку, на Украіну і ў Расію. Так званыя "лімiткі" дадуць права на атрыманне 80-ці і 30-ці літраў бензіну адпаведна ўладальнікам аўта- і мотатранспарту. Рэалізацыя насельніцтву Беларусі бензіну ўзрасце ў параўнанні з мінулым годам на 40 літраў і складзе 960 літраў на чалавека.

ПАВОДЛЕ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ НАШЫХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ.

### КАБ ЛЮДЗЬМІ ЗВАЦЦА

28 чэрвеня споўнілася 50 гадоў з дня трагічнай гібелі Янкі Купалы. У гэты дзень раніцай адбыліся набажэнствы ў праваслаўных, пратэстанцкіх і каталіцкіх храмах Беларусі, Вільнюса і Масквы. Людзі ў гэты дзень сабраліся ў 16 гадзін ля помніка паэту ў мінскім парку імя Янкі Купалы на жалобнае веча. Са сваімі вершамі і словамі выступалі знакамітыя пісьменнікі і паэты Беларусі: Васіль Быкаў, Сяргей Грахоўскі, Максім Лужанін, Мікола Аўрамчык, Барыс Сачанка, Юрась Свірка, Казімір Камейша. Вершы Купалы прагучалі ў выкананні артысткі Галіны Дзягілевай. Камерны хор Рэспублікі Беларусь выканаў беларускія спевы і гімны. Пасля ўсе жадаючыя прайшлі да Вайсковых могілак, каб ускласці вянкі і кветкі на магілы Купалы і яго маці.

Незвычайна добрае надвор'е ў спалучэнні з урачыстасцю жалобнага веча дало шмат прыемных для душы хвілін. А ўсім, хто па нейкіх прычынах не змог трапіць на яго, нагадваю, што праз некалькі дзён, 7 ліпеня, спаўняецца 110 год з дня нараджэння Купалы. Гэтай даце будуць прысвечаны вечарыны. З 2 па 7 ліпеня пройдуць святы на радзіме паэта ў Вязынцы, у Доме літаратара адбудзецца паказ новага фільма аб жыцці і гібелі песняра. Але самым добрым ушанаваннем яго памяці будзе, безумоўна, раскрыты томік Купалы і прачытаныя вершы. І сярод іх, мусіць, гэтыя:

*А чаго ж, чаго захацелась ім,*
*Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца.*

Рыгор ВАЛНЕНКА.

### Веласіпед – раскоша?

Падобна на тое, што і гэты сродак перамяшчэння ў хуткім часе стане раскошай для значнай часткі насельніцтва. Аб прычынах чарговага вітка цэн на прадукцыю Мінскага мотавелазавода расказвае галоўны інжынер мотавелазавода Анатоль Сцяпанавіч Язвінскі:

— Зразумела, што рынак не абмінуў і наша прадпрыемства. Таму заканамерны спад вытворчасці. Аб'ём выпуску прадукцыі знізіўся ў параўнанні з мінулым годам на 25 працэнтаў. Матацыклаў, кошт якіх зараз стаў 16 тысяч рублёў, у гэтым годзе будзе выпушчана 180 тысяч, веласіпедаў — 830 тысяч. Гэта выклікана ростам цэн на камплектуючыя. Так, нашы пастаўшчыкі з Даўгаўпілса "заламалі" цану ў 100 рублёў за адну педаль, вельмі дарагія таксама вела- і моталанцугі. Ды і на іншыя камплектуючыя, якія пастаўляюцца нам з Расіі і Украіны, устаноўлены нявыгадныя для нас цэны. Прыходзіцца шукаць выйсце з гэтага становішча. Вырашана, напрыклад, у двухмесячны тэрмін наладзіць на мотавелазаводзе вытворчасць педаляў. З разуменнем аднесліся да нашых прапаноў і іншыя заводы Беларусі, асабліва абаронныя прадпрыемствы. Ёсць узаемавыгадныя дамоўленасці з Мінскімі маторным, падшыпнікавым заводамі, заводам імя Вавілава. Але і гэта, на жаль, не вырашае ўсіх праблем. Таму мы проста вымушаны былі ўзняць адпускныя цэны на дарожны веласіпед да 3500 рублёў, на складны — да 3900 рублёў. Зазначу, што гэтыя цэны яшчэ без дваццаціпрацэнтнага падатку, які ўстанаўліваецца прадпрыемствамі гандлю. Каб неяк аблегчыць жыццё пакупнікам, будзе створаны магазін прама ў нас на заводзе. Дзеля таго, каб наладзіць збыт прадукцыі, на нашу думку, ёсць адзінае выйсце: гэта павышэнне якасці і экспарт. Намі ўжо заключана 10 кантрактаў — у тым ліку з такімі краінамі, як Турцыя, Вялікабрытанія, Германія, а таксама з шэрагам краін Лацінскай Амерыкі. Згодна з пагадненнем, прадукцыя будзе пастаўляцца за валюту, або ўзамен на камплектуючыя.

Сяргей Вішнеўскі.

### ПАМЯЦІ ТАВАРЫША

Пайшла з жыцця Нэлі Фёдараўна Сташынская...

14 ліпеня мы збіраліся віншаваць яе з 51-годдзем...

Не стала вельмі добрага чалавека на зямлі. Яе праца была нябачная чытацкаму воку: Нэлі Фёдараўна ўзначальвала карэктарскую службу газеты. Аднак гэтая сціплая жанчына была і застанецца ў нашай памяці чалавекам сумленным, шчырым, добрым, стрыманым, спагадлівым, справядлівым, вельмі чуллівым і ранімым.

Няма чалавека, якога б яна пакрыўдзіла. Мы вельмі паважалі яе за гэтыя рысы характару. Побач з ёй хацелася быць лепшым, чысцейшым. Нэлі Фёдараўна выхавала дваіх дзяцей. Побач з ёй заўсёды знаходзіўся яе верны сябар, спадарожнік у жыцці муж Леанід Іванавіч. І ўраз асірацела сям'я, асірацелі і мы, яе калегі.

Сэрца разрываецца ад крыўды і жалю. Смутак агарнуў нашыя душы.

Бывайце, дарагі чалавек, Нэлі Фёдараўна! Ваша зорка будзе вечна ззяць на небасхіле "Чырвонай змены".

Чырваназменаўцы.

## КУР'ЕР ТЫДНЯ

*Васіль Антонавіч ВІЛЬТОЎСКІ, інспектар Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны:*

– Выкананне дзяржаўнай праграмы па адраджэнню беларускай мовы датычыць усіх. Але далёка не ўсе яе выконваюць. А пачынаць трэба з такіх пытанняў, што ляжаць наверсе, што бачныя ўсім. Напрыклад, са змянення шыльдаў, напісаных на рускай мове, на крамах, розных установах і г.д.

Наша таварыства стараецца як мага больш уважліва адносіцца да такіх (маленькіх, на першы погляд) праблем. Хаця адны мы, без дапамогі людзей, амаль нічога вырашыць не можам. Бо мы, як гэта ні балюча, працуем на прымітыўным узроўні. Штат нашага таварыства – усяго тры чалавекі. А калі адзін чалавек займаецца некалькімі справамі адразу, то ні адна з іх дакладна не выконваецца. Але стараемся...

Хочам арганізаваць курсы па вывучэнню беларускай мовы для абітурыентаў. Справа гэта добрая, і спадзяёмся, што нас падтрымаюць. Атрымалі пакойчык у будынку былога Белсаўпрофа, што па вуліцы Кастрычніцкай, дзе плануем з верасня пачаць выкладаць лекцыі, накіраваныя на адраджэнне беларускай мовы. У праграму лекцый будзе ўваходзіць таксама вывучэнне гісторыі і культуры Беларусі.

Асноўная наша праблема на сённяшні дзень – гэта недахоп грошай. Дзяржбюджэт нас не падтрымлівае. На пачатку ўзялі ў Дзяржбанку крэдыт у 500 тысяч рублёў. У наступным годзе трэба аддаваць. А пакуль што "круцімся". Заказваем розныя значкі, выдаём кніжкі, слоўнічкі, сімвалы. А потым прадаём усё гэта з невялікай накідкай у цане.

Спадзяёмся, што нашы намаганні падхопяць іншыя людзі – і беларуская мова на Беларусі стане сапраўды роднай.

*Васіль РАІНЧЫК, кампазітар:*

– Праблемы, якія мяне сёння турбуюць як чалавека, такія ж, як і ў большасці людзей. А вось аб праблемах беларускай музыкі трэба сказаць.

І асноўным тут з'яўляецца, на мой погляд, пытанне аб тым, як у наш жорсткі час могуць выжыць розныя "астраўкі культуры". Гэта фальклорныя калектывы і групы, ансамблі і індывідуальныя выканаўцы. Канцэртная дзейнасць сёння – справа вельмі нялёгкая, а таму многія таленавітыя людзі пакідаюць эстрадныя падмосткі. Адны не вытрымліваюць канкурэнцыі, другія – матэрыяльных цяжкасцей, трэція – таго, што іх не ведае аўдыторыя. Вельмі часта ў нас бывае такое: пакуль выканаўцу не прызнае Масква, яго не прызнаюць і ў нас.

Што ж датычыць маіх планаў на будучыню, то галоўнае – гэта выступленне на Віцебскім міжнародным фестывалі, які адбудзецца летам. Дзесьці ў верасні мяркуем паехаць на гастролі ў Афіны. Туды мы вязём новую праграму, у якой будзе выступаць камерны хор. Але не пад акампанемент аркестра, як гэта ўжо прывыклі бачыць і чуць, а пад акампанемент камп'ютэра. Гэтая праграма ўжо мела поспех у Мінску. Зараз я прымаю ўдзел у конкурсе на лепшы Гімн нашай Беларусі. Хочацца, канешне, перамагчы.

*Уладзімір Якаўлевіч ЯНКОВІЧ, намеснік генеральнага дырэктара ВА "Гарызонт".*

– Як мы выходзім са становішча, што склалася пасля распаду Саюза і разрыву вытворчых сувязей паміж прадпрыемствамі? Гэта, шчыра кажучы, камерцыйная тайна. Ну, а ўвогуле працуем мы так, як і большасць буйных прадпрыемстваў былога СССР, якія разумеюць, што адно без аднаго ім будзе вельмі цяжка. Вось на гэтым і трымаюцца ранейшыя сувязі. Вельмі цяжка выжыць у такіх умовах, калі палітыкі ніяк не падзеляць маёмасць "вялікага і магутнага", калі не ведаеш, што чакае заўтра цябе або твайго пастаўшчыка. Усё ж хацелася б, каб уладу маючыя больш увагі ўдзялялі не сваім палітычным баталіям, а праблемам вытворчасці. Цэны на нашу прадукцыю пакуль што трымаюцца на ранейшым узроўні, але няма ніякай гарантыі, што ў бліжэйшы час яны не падскочаць. Напэўна, усё будзе залежаць ад паводзін у гэтым накірунку Расіі і Украіны, куды, дарэчы, і экспартуецца большасць нашай прадукцыі за папярэднюю аплату. У заходнія ж краіны мы пастаўляем тэлевізары ў асноўным узамен на камплектуючыя дэталі, тыя, што нельга знайсці ў межах СНД, і з-за недахопу якіх у людзей часам з'яўляюцца незапланаваныя выхадныя. Што датычыць скарачэння работнікаў, то пакуль што мы імкнёмся захаваць калектыў, развітваемся ж хіба толькі з пенсіянерамі.

*Неафіцыйны "афіцыёз"*

# САДРУЖНАСЦЬ: ЧАРГОВЫ ІСПЫТ

«ПАС» падрыхтавала
Алена АГІБАЛАВА,
рэдактар аддзела па пытаннях палітыкі,
тэл. 39-87-94.



Гэтая сустрэча ў маштабах СНД для Беларусі была чацвёртай. Прыгадайма месцы правядзення трох папярэдніх аналагічных форумаў: стаўшыя ўжо легендарнымі Віскулі, урадавая рэзідэнцыя, Вярхоўны Савет РБ. І, урэшце, Кірава,17.Менавіта тут знаходзіцца каардынацыйны цэнтр Садружнасці, дзе працуе Рабочая група СНД. Абжыты структурамі Садружнасці будынак Мінскага абкама КПБ не папракнеш ва няўтульнасці. І усё ж адной надзвычай важнай, як аказалася, рэчы ён не меў — круглага стала. Так што абкамаўскае нутро перажыло вялізную рэканструкцыю, дарэчы, як і цэнтральныя вуліцы горада. Так бы мовіць, твар горада напярэдадні сустрэчы старанна шліфаваўся, стаічна трываў святочны макіяж — асфальтаванне вуліцаў, стрыжка газонаў, кустоўв, фарбаванне агароджаў і да т.п. На брыфінгу, што папярэднічаў нарадзе, арганізатары вытлумачылі гэткую ашчадную падрыхтоўку даволі своеасабліва. Апошнія перамовы ў Ташкенце настолькі старанна былі падрыхтаваныя, праходзілі ў такіх вельмі спрыяльных умовах, што (хочаш — не хочаш...) задалі на будучыню дастаткова высокі ўзровень арганізацыі падобных мерапрыемстваў. Ва ўсялякім разе са школьнай парты мы ведаем, што навуковая арганізацыя працы запатрабоўвае перш-наперш старанннай падрыхтоўкі рабочага масца. Там, дзе вэрхал на стале і ў пакоях, даволі часта блытаніна — у справах і думках. Так што падрыхтоўка да сустрэчы, відаць, павінна была падкрэсліць памкненне ейных удзельнікаў да прадуманай, грунтоўнай працы. Стала старааннае знешняе аздабленне Мінскай сустрэчы толькі атрыбутам будучай працы, кшалту яркай абгорткі без змесціва, ці сталася сапраўднай перадумовай насычанага здзяйсненнямі дня?

Папярэдні парадак работы Мінскай нарады кіраўнікоў урадаў краін — членаў СНД працяглы час распрацоўваўся ў экспертных камісіях. Канчатковы ж пералік разглядаемых пытанняў быў прыняты непасрэдна пасля адкрыцця сустрэчы . Прапанаваныя пытанні яскрава падзяліліся на тры блокі: эканоміка, экалогія, войска. Пад нумарам І ў чарнавым, незацверджаным парадку дня было вынесена пытанне, прапанаванае для разгляду Расійскай Фэдэрацыяй, — "Аб каардынацыі дзейнасці і абароне інтарэсаў дзяржаў, якія знаходзяцца ў "рублёвай зоне", у выпадку ўвядзення імі нацыянальных валют". Канешне, Расія зацікаўленая, каб як мага на большай тэрыторыі панаваў рубель. Прагучалі нават абвінавачванні ва ўціску Масквы на рэспублікі дзеля захоўвання адданасці апошніх рублю. Але Я.Гайдар заявіў, што ягоная краіна "гатова аказаць усялякае садзейнічанне дзяржавам, якія жадаюць цывілізаваным шляхам, з улікам інтарэсаў іншых рэспублік... увесці сваю нацыянальную валюту". Пры ўзнікненні спрэчных пытанняў дамоўлена звяртацца ў арбітраж Міжнароднага Валютнага Фонду.

Асаблівае месца займала праблема мірнага скарыстання атамнай энергіі. Упаўне зразумела, што правілы будаўніцтва АЭС і кантроль за іхняй дзейнасцю павінны падпарадкоўвацца міжнародным нормам. Краіны, на тэрыторыі якіх знаходзяцца АЭС, павінны прыняць на сябе міжнародныя абавязацельствы аб бяспецы сваіх ядзерных аб'ектаў. Тут жа прыгадваліся перспектывы мірнага выкарыстання ядзернай энергіі, сумесная распрацоўка уранавых радовішчаў. Не меншае значэнне надавалася абмеркаванню пагаднення аб арганізацыі кантролю за экспартам сыравіны і састаўляючых для стварэння зброі (у тым ліку і ядзернай). Прыняцце гэтай высновы дало мажлівасць уздыхнуць сусветнай грамадскасці з палёгкай: урэшце будзе пастаўлена заслона на шляху распаўсюджвання ядзернай зброі. Гэтае пагадненне прадугледжвае таксама супрацоўніцтва ў арганізацыі экспарту сыравіны для вытворчасці зброі, увядзенне адпаведнага ліцэнзавання. Урэшце менавіта названае пагадненне на выніковай прэс-канферэнцыі было падкрэслена як адно з вядучых дасягненняў СНД у міжнародным плане.

Што тычыцца правілаў увядзення нацыянальных валют, дык гэтае пагадненне ўрэшце парафіравана і вынесена на зацвярджэнне 6 ліпеня, калі адбудзецца нарада кіраўнікоў дзяржаў - удзельніц СНД. Яно апіраецца на аналагічныя дамоўленасці, якія папярэдне былі дасягнуты Расіяй з Эстоніяй і Украінай (сустрэча ў Дагамысе). Але ледзь ці не адным з найбольш спрэчных было прызнана пытанне пра падзел суднаў "неваенных, марскіх". Тое, што флот аказаўся нераўнамерна размеркаваны, бясспрэчна. Аднак для ягонай дзяльбы патрэбна прыцягненне і іншых рэспублік былога СССР, перш-наперш краін Балтыі.

Нядзіўна, што пра падзел неваенных марскіх суднаў "захацела пагаварыць" Беларусь. У свеце існуе каля 40 краін, у якіх няма выхаду да мора, але якія маюць марскі флот. Варта заўважыць, палова выдаткаў па дастаўцы грузаў "паглынае" фрахтаванне суднаў. Па міжнароднаму праву прапісацца судны флоту сухапутнай дзяржавы могуць у любым порце згодна з папярэдняй дамоўленасцю. Для Беларусі гэта актуальна.Ведаць пра вышэй азначаную сусветную практыку і не скарыстаць яе — сабе даражэй.

Цяпер — пра ўдзельнікаў Мінскай сустэчы, што, як вядома, мелася адбыцца паміж "кіраўнікамі ўрадаў краін - удзельніц СНД". У Мінск жа прыехалі толькі тры прэм'еры — Беларусі, Расіі, Таджыкістана. Рабіць з аднаго гэтага факта глабальныя вывады наконт занядужання і ўрэшце — хуткага скону СНД, па меншай меры — неабачліва. Пэўне, калі гэткі фінал чакае Сад ружнасць, то не з-за адсутнасці прэм'ераў, а... з-за гор папераў. Так-так... Рашэнні, прымаемыя на міжурадавым і міждзяржаўным узроўнях у межах СНД перш-наперш павінны працаваць. А тое, прыехаў сам прэм'ер ці ягоны намеснік, упаўнаважаны весці перамовы такога кшталту — унутраная справа кожнай краіны. Часам нават, як заўважылі мне ў прэс-службе Рабочай групы СНД, адсутнасць менавіта "першай асобы" спрыяе прыняццю памяркоўных рашэнняў. Так, многія з аглядальнікаў падкрэслілі: з'яўленне ў Ташкенце спадара Фокіна замест сп.Краўчука садзейнічала, а не перашкодзіла (што зычылі ў выпадку прысутнасці апошняга) прыняццю надзвычай важнага пагаднення — аб узаемаразліках паміж рэспублікамі (з Украінай Беларусь ужо разлічылася, на чарзе — Расія). Паколькі нідзе ў друку не пералічваліся кіраўнікі ўрадавых дэлегацый, мы прапануем нашым чытачам гэтыя звесткі.




1. Азербайджанская Рэспубліка — Тагі-Задэ, нам. Старшыні Дзяржэканомплана.
2. Рэспубліка Арменія — Баграцян Г.А, 1-ы нам. прэм'ер-міністра;
3. Рэспубліка Кыргызстан — Кузняцоў Г.С., 1-ы віцэ-прэм'ер-міністр;
4. Рэспубліка Малдова — Мунцяну Д., пастаянны прадстаўнік Рэспублікі Малдовы ў Рабочай групе СНД (у якасці назіральніка);
5. Рэспубліка Казахстан — Саскавец А.М., 1-ы нам. прэм'ер-міністра;
6. Расейская Федэрацыя — Гайдар Я.Ц., выконваючы абавязкі Старшыні ўрада;
7. Рэспубліка Таджыкістан — Мірзоеў А.М., прэм'ер-міністр;
8. Туркменістан — Атчэрцаў В.Г., нам. кіраўніка ўрада,
9. Рэспубліка Узбекістан — Хамідаў Б.С., нам. Старшыні Кабінета Міністраў;
10. Украіна — Масік К.І., першы віцэ-прэм'ер-міністр;
11. Рэспубліка Беларусь — Кебіч В.Ф., Старшыня Саўміна РБ;
12. Аб'яднаныя ўзброеныя сілы — Шапашнікаў Я.І., маршал авіяцыі;
13. Пагранічныя войскі СНД — Шаталін Ю.В., генерал-палкоўнік.

Прэм'ер Малдовы Валерыу Мураўскі даслаў тэлеграму: "У сувязі са становішчам, якое склалася ва ўсходніх раёнах Малдовы, дэлегацыя рэспублікі прыбыць у Мінск не можа". Прэзідэнт Малдовы, як вядома, якраз знаходзіўся ў Стамбуле на чатырохбаковых перамовах па ўрэгуляванню канфлікту ў Прыднястроўі. Такім чынам дэлегацыю Рэспублікі Малдовы замяніў пастаянны прадстаўнік рэспублікі ў Рабочай групе СНД. Яго, Д.Мунцяну, а таксама прадстаўніка Азербайджана (усе яны не мелі адпаведных паўнамоцтваў) перад пачаткам сустрэчы папрасілі выйсці з залы. І, пасля абмеркавання "ўпаўнаважаныя" вынеслі "неўпаўнаважаным" суровы вердыкт — заняць месцы назіральнікаў. Гэткая рашучасць вытлумачваецца і тым, што вось ужо колькі часу Азербайджан і Малдова не ратыфікавалі сваё ўступленне ў Садружнасць. Вылучэнне назіральнікаў у сукупнасці з прапановай беларускага прэм'ера В.Ф.Кебіча наконт стварэння эканамічнага выканкама СНД, відаць, гаворыць пра новыя тэндэнцыі ў Садружнасці. Многія з удзельнікаў сустрэчы неаднаразова падкрэслівалі жыццяздольнасць СНД — тое, пра што раней імкнуліся змаўчаць. Пэўне, і цешыцца колькасцю фармальна ўваходзячых у гэтую супольнасць дзяржаў удзельнікі СНД болей нясхільныя. Таму пайшла гаворка пра выканальніцкую дысцыпліну адносна ўзятых абавязацельстваў. Варта зазначыць, што пытанні эканамічнага характару выносіліся на абмеркаванне пры актыўнай падтрымцы нашай рэспублікі.

Яшчэ. Мінская нарада падвысіла тарыфы на грузавыя і пасажырскія перавозкі (на першыя — у тры разы, на другія — удвая). Адхілена абмеркаванне ператварэння Астанкіна ў міждзяржаўную тэлерадыёкампанію. Чаму? Не распрацаваны неабходны статут, даручэнне такое давалася яшчэ ў Ташкенце. Але астанкінцам няма чаго хвалявацца. "Расія, — як сказаў на прэс-канферэнцыі Ягор Гайдар, — не забудзецца пра Астанкіна". Увачавідкі бачна таксама, што і само Астанкіна не вельмі спяшаецца на сцяжыну міждзяржаўнага вяшчання. Пад крылцам у Расіі яму дастаткова ўтульна. Аднак стварэнне адзінай інфармацыйнай прасторы жыццёва важна для СНД.

Пасля Мінскай нарады для атрымання экстраннай медыцынскай дапамогі ў любым куточку СНД вам цяпер не запатрабуецца аніякіх кампенсацый. Дыплом жа ўрача, у якой бы краіне Садружнасці ён ні быў атрыманы, сапраўдны на ўсёй тэрыторыі СНД.

І напрыканцы колькі словаў пра тое, пра што, здаецца, не змаўчаў ніводны газетны аглядальнік, тэле- альбо радыёкаментатар — галодны інфармацыйны паёк, на які былі пасаджаны акрэдытаваныя на сустрэчу журналісты. Дарэчы, уся інфармацыя, скарыстаная аўтарам гэтых радкоў (гэткі самы лёс спасціг і іншых маіх калег) атрымана "з другіх рук", з выслоўяў пра падзеі арганізатараў сустрэчы. Аніводнай раздрукоўкі пагаднення, пратакола, папросту папярэдняга парадку работы нарады (урэшце, што ж на самай справе ўтрымліваюць гэтыя дакументы!) — прэса не атрымала. Так што "эфекту прысутнасці", а тым больш грунтоўнага аналізу, вынёскаў Мінскай сустрэчы ў журналісцкіх допісах амаль што няма. Часцяком параўноўваюць прэсу з люстэркам. Слушнае параўнанне. Канешне, можна прымусіць гэтае, так бы мовіць, люстэрка адбіваць жадаемае, а не рэальнае. Можна займець замест сродкаў масавай інфармацыі ілюзіён, але якой цаной прыйдзецца грамадству расплачвацца за самападман, недагаворкі, утойванні?



**Пакуль палітыкі і эканамісты спрачаюцца аб тым, якім шляхам нам лепш ісці да незалежнага рынку, народ застаецца пакінутым на волю лёсу, ці ў лепшым выпадку статыстам у якім-небудзь чарговым эксперыменце. Ці не тое зараз адбываецца і з новымі беларускімі грашыма? Менавіта таму мы вырашылі расставіць, як кажуць, усе кропкі над "і" ў праблеме беларускіх грашовых адзінак і запрасілі за наш эканамічны "круглы стол" намесніка міністра фінансаў Рэспублікі Беларусь Мікалая Казіміравіча Лісая, начальніка ўпраўлення грашовага абароту Нацыянальнага банка Беларусі Тамару Уладзіміраўну Каржанеўскую і дэпутата Вярхоўнага Савета РБ, прэзідэнта Беларускага Саюза прадпрымальнікаў Уладзіміра Мікалаевіча Карагіна.**

# ПАМІЖ РУБЛЁМ І ТАЛЕРАМ

## "КРУГЛЫ СТОЛ" "ЧЗ"

**"ЧЗ":–** Зараз ідзе шмат спрэчак аб тым, што ж такое так званыя "беларускія рублі". Скажыце, ці можна лічыць іх нацыянальнай валютай?

**М.К. Лісай:—** Увядзенне беларускага рубля з'яўляецца працягам палітыкі па абароне спажывецкага рынку Беларусі. Першым крокам у гэтым накірунку было ўвядзенне аднаразовых купонаў, якія суправаджалі рубель і абмяжоўвалі пакупніцкую здольнасць як жыхароў рэспублікі, так і прыезджых грамадзян. На нейкім адрэзку часу быў атрыманы эфект, але кіраўніцтва і разлічвала на яго кароткачасовасць. Але немагчымасць інкасацыі аднаразовых купонаў у хуткім часе вычарпала іхняе прымяненне. Лагічным працягам гэтай схемы было б увядзенне шматразовых купонаў, якія б мелі тую ж ступень, што і рубель. Але ва ўмовах росту цэн праблема вывазу тавару ў пэўнай ступені аслабла і ў той жа самы час узнік востры рубель недахоп рублёвай наяўнасці. Беларускі рубель павінен быў кампенсаваць гэты недахоп у якасці самастойнай плацежнай адзінкі. І маштаб 1:10 прыняты толькі ў мэтах эканоміі паперы. Так што, паколькі спецыяльнага разліковага курса беларускага рубля да "савецкага" не ўстанаўлівалася, разглядаць яго як уласную нацыянальную валюту ні ў якім разе нельга.

**Т.У. Каржанеўская:—** Беларускі разліковы білет дзейнічае нароўні з рублём. І калі мы выкарыстоўваем маштаб 1:10, то толькі для таго, каб ім было зручней карыстацца. Гэта рубель, але ў нацыянальнай "кашулі".

**У.М. Карагін:—** Дзеля таго, каб займець урэшце нацыянальную валюту, неабходна яшчэ шмат чаго зрабіць і змяніць у эканоміцы. Напрыклад, правесці інвентарызацыю ўласнасці. Паказаць, якая будзе напоўненасць нацыянальнай валюты, якімі матэрыяльнымі каштоўнасцямі яна забяспечана, што яшчэ павінна быць праверана заходнімі экспертамі. Гэта і вызначыць у рэшце рэшт яе рэальны кошт і суадносны да іншых валют.

**"ЧЗ":–** Ці ўплывае на прэстыж беларускіх грошай тое, што яны дзейнічаюць адначасова з "ленінскім" рублём?

**Т.У. Каржанеўская:—** Думаю, што не. Адносіны да іх павінны быць такімі ж, як да рубля, а іхні прэстыж — роўны прэстыжу рубля.

**У.М. Карагін:—** Вы ведаеце, што рублёвай масы не хапае і ўрад рэспублікі выпусціў у абарот фактычна тыя ж самыя рублі, толькі з тэрытарыяльна-абмежаваным выкарыстаннем. Больш нічым яны не адрозніваюцца, бо дзейнічаюць у адной эканамічнай прасторы.

**М.К. Лісай:—** Я лічу, што ў пэўным сэнсе сітуацыя, якая склалася сёння, усё ж уплывае на прэстыж беларускіх грошай. Прычым у чыста псіхалагічным аспекце. Некаторыя людзі з недаверам ставяцца да разліковых білетаў, баючыся нейкага падману.




**"ЧЗ":–** Ці апраўданы такі недавер?

**М.К. Лісай:—** Хачу запэўніць вас, што падазрэнні гэтыя не маюць пад сабой ніякай глебы. Бо па жаданню ўладальніка можна свабодна "канверсаваць" адну разліковую адзінку ў другую. Як толькі мы з вамі пераканаемся, што ніякіх перашкод на шляху беларускага рубля няма (а на самай справе гэта так і ёсць), знікнуць апошнія сумненні.

**Т.У. Каржанеўская:—** Я лічу, што недавер да беларускіх грошай неапраўданы. Таму што чалавек можа гэтым разліковым білетам усё аплаціць: тавары, паслугі, акцыі, пакласці пэўную суму на рахунак. Гэта ў першыя дні, калі арганізацыі сувязі, транспарту не атрымалі інструкцыі, калі гандаль надзвычай хутка "перабудаваўся" — у сферы паслуг атрымалася затрымка. Апошняе і прывяло да стварэння пэўнага недаверу з боку людзей. А ўвогуле яго быць не павінна. Да таго ж мы ўжо атрымліваем паведамленні, нават з падзякамі, што выпусцілі надзвычай добрыя і зручныя грошы: яны выдатна выглядаюць, змяшчаюцца ў кашальку і г.д. Не апошнім стаў і наступны псіхалагічны момант. Калі тавар каштуе 100 рублёў, а ты плаціш 10, то гэта прыемна.

**У.М. Карагін:—** Адразу хачу падкрэсліць, што беларускі рубель і нацыянальная валюта — гэта зусім розныя рэчы, якія не маюць нічога агульнага. Беларускі рубель, які існуе на сённяшні дзень, уяўляе сабой від каштоўных папер, накшталт акцый. І чаму ў мяне павінен быць недавер да іх, калі яны забяспечаны і без усялякіх праблем абменьваюцца на матэрыяльныя каштоўнасці, тавары і паслугі?!

**"ЧЗ":–** Ці патрэбна нацыянальная валюта? Вам, напрыклад, як незалежнаму прадпрымальніку?

**У.М. Карагін:—** Нам патрэбна свабодна канверсуемая валюта. Не трэба, думаю, тлумачыць, што прадпрымальніка не задавальняе малая альбо абмежаваная прастора для сваёй дзейнасці. Гэта тычыцца нават прасторы былога СССР. Нам трэба выходзіць у свет, а ўвядзенне ўласнай валюты стварае свае цяжкасці і пераразлікі.

Так, напрыклад, Міністэрству ўнутраных спраў, магчыма, выгадна, каб людзі сядзелі дома і нікуды не выходзілі, гэта б знізіла злачыннасць. Аднак прадпрымальнік не можа сядзець увесь час толькі ў межах Беларусі. Увогуле выходзіць з рублёвай зоны сёння, я лічу, немэтазгодна. Гэта звязана, перш-наперш, з адсутнасцю рынку каштоўных папер, заканадаўчай незабяспечанасцю, развалам эканомікі і пэўнай сыравіннай залежнасцю Беларусі ад Расіі і іншых краін.

**М.К. Лісай:—** Рэспубліка Беларусь у шэрагу іншых рэспублік былога СССР падпісала дамову, што яна застаецца ў рублёвай зоне. На сённяшні дзень мы выконваем гэтую дамоўленасць. Але з эканамічнага пункту погляду адасабленне валюты вядзе да абмежавання рынку тавараў, дапамагае ягонай манапалізацыі, аслабленню канкурэнцыі вытворцаў, што, у рэшце рэшт заканчваецца зніжэннем эфектыўнасці вытворчасці. Трэба ўлічваць яшчэ і тое, што эканоміка рэспублік мае высокую ступень узаемаінтэграванасці. Ва ўмовах фінансавай нестабільнасці ўвядзенне нацыянальнай валюты можа стаць сапраўдным стыхійным наступствам. Тым не менш падрыхтавана згода аб парадку выхаду з рублёвай зоны дзяржаў, якія пажадаюць увесці сваю нацыянальную грашовую сістэму. Аднак знаходжанне ў рублёвай зоне абавязвае ўвесці ўзгодненую грашовую палітыку ў суадноснасці з міжнароднымі нормамі. Так што адказ на пытанне, ці патрэбная нам нацыянальная валюта, можа даць толькі ход развіцця далейшых падзей. Але нацыянальныя грошы павінны быць забяспечаны здабыткам рэспублікі, нядрэнна было б мець і стабілізацыйны валютны фонд.

**Т.У. Каржанеўская:—** Любая дзяржава на пэўнай стадыі павінна клапаціцца аб тым, каб мець уласную грашовую сістэму. Гэтаксама і мы. Але пакуль што няма сэнсу выходзіць з рублёвай зоны. Нацыянальная валюта павінна быць забяспечана эканамічнымі праграмамі развіцця: каб за гэтыя грошы можна было купіць рэальны тавар. Толькі стабільнасць эканомікі дасць нам базу для ўвядзення нацыянальнай валюты.

**"ЧЗ":–** Як адаб'ецца ўвядзенне беларускага рубля і надалей нацыянальнай валюты на зносінах з заходнімі краінамі?

**У.М. Карагін:—** Не сакрэт, што Беларусь для заходніх бізнесменаў з'яўляецца невядомай краінай. Невядомасць ужо сама па сабе палохае. А тут яшчэ далучаюцца матэрыяльныя расходы на вывучэнне пакупніцкай здольнасці талера, фінансавай абароны і гарантыі, пераразлік...

**М.К. Лісай:—** Адной з рэкамендацый МВФ, членам якога з'яўляецца Беларусь, стала пагадненне аб рублёвай зоне. Што тычыцца разліковага білета (беларускага рубля), то ягоны абарот не выклікае асаблівай незадаволенасці ў міжнародных фінансавых арганізацый. Пры ўмове, што ўсе рублі будуць узаемаабменьвацца ва ўсіх банках. А іх эмісія акажацца ў межах планавай рублёвай эмісіі.

**Т.У. Каржанеўская:—** Міжнародны валютны фонд не выказаў нічога супраць беларускага рубля, улічваючы, што мы засталіся ў рублёвай зоне. А што датычыць паўнапраўнай нацыянальнай валюты... Я думаю, што пачнуць ставіцца да яе гэтак жа, як і да валют любой іншай краіны: установіцца курс валют і разлікі будуць будавацца на той жа базе, што і з іншымі дзяржавамі. Я думаю, што нічога адмоўнага ў плане нашых узаемаадносін адбыцца не павінна.

**"ЧЗ":–** Якой бы вы хацелі бачыць нацыянальную валюту?

**У.М. Карагін:—** Забяспечанай такімі матэрыяльнымі каштоўнасцямі, пералік якіх выклікаў бы давер да яе.

**Т.У. Каржанеўская:—** І канверсуемай. Каб мы маглі набыць на яе ўсё, што пажадаем. Ну і каб яна была знешне прывабнай.

"Круглы стол" вёў
Зміцер Лукашук,
эканамічны аглядальнік "ЧЗ".

# "ЧАЦВЁРТАЯ УЛАДА":

## ПАДЗЕІ, ПОШУКІ,ПАМКНЕННІ

*У далёкія і не надта далёкія гады ўсё, што датычыла фарміравання грамадскай думкі, у тым ліку і дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі, зыходзіла непасрэдна з самой вяршыні партыйнага Алімпа.*

*Часы змяніліся. Інфармацыя становіцца разняволенай, журналісты заваёўваюць духоўную незалежнасць. Аднак даператварэння нашай прэсы ў сапраўды незалежны інстытут сапраўднай незалежнай дзяржавы пакуль што далёка. Сённяшняя наша гутарка на гэтую тэму з міністрам інфармацыі Рэспублікі Беларусь Анатолем Іванавічам Бутэвічам.*

**– Анатоль Іванавіч, ці стане калі-небудзь беларуская прэса чацвёртай уладай у рэспубліцы?**

— А колькі ў нас ужо ёсць?

**– Пакуль што, здаецца, няма ніводнай.**

— Дык навошта чацвёртая, калі няма ніводнай? Я жартую і разумею ваша пытанне, але хачу сказаць вось што: асабіста я супраць такога падзелу ўлады, калі існуюць групоўкі, планы і гэтак далей, якія вядуць між сабой вайну. Улада павінна быць адна — улада народа. А вось для ажыццяўлення гэтай улады патрэбны пэўныя інстытуты. Інстытут інфармацыі такі ж важны для дзяржавы інстытут, як і шэраг іншых. Калі ёсць народная патрэба ў гэтым інстытуце — толькі тады ён мае права на існаванне. На сённяшні дзень такая патрэба, безумоўна, ёсць. А вось ці стане наша прэса рэальнай сілай, здольнай прэтэндаваць на права чацвёртай улады — гэта ўжо залежыць ад яе самой. Ёсць вельмі актуальны выраз аднаго замежнага журналіста, Алана Ньюхарта, прэзідэнта фонду "Форум свабоды": "Прэса не застанецца свабоднай, калі яна не будзе сумленнай". Гэтую формулу працы прэсы я цалкам падзяляю.

Зараз на тытулах многіх газет можна ўбачыць слова "незалежная". Ад каго ж? Любая выдаючая арганізацыя, любы заснавальнік, нават прыватная асоба, добра ведаюць, што палітыка выдання будзе залежаць — у большай ці меншай ступені — ад іх пункту гледжання. А вось сумленнасць прэсы — гэта менавіта той крытэрый ацэнкі працы газеты, які сёння з'яўляецца надзвычай актуальным. Людзям вельмі патрэбна праўда. Але, на жаль, многім прадстаўнікам і беларускай прэсыда гэтага ідэалу яшчэ ісці ды ісці. Ёсць, вядома, і выданні, і журналісты, якія аб'ектыўна асвятляюць падзеі, але некаторыя імкнуцца выязджаць на "смажаных" фактах, на наўмыснай напружанасці.

Зноў хачу прывесці цытату, якая,на мой погляд, тут будзе дарэчы: "Непахісным прынцыпам усіх без выключэння амерыканскіх газет з'яўляецца тое, што навіна не павінна быць афарбавана сімпатыямі альбо антыпатыямі ні рэпарцёра, ні ўсёй рэдакцыі." Інфармацыя павінна гаварыць сама за сябе. У журналіста ж ёсць шмат іншых спосабаў выказвання свайго пункту гледжання на тую ці іншую праблему: ад каментарыя да аналітычнага артыкула. У нас, здараецца, і на радыё, і на тэлебачанні, і ў газетах навіна часта выходзіць нейкай скасабочанай, з маленькай "папраўвачкай" карэспандэнта. І вось гэтая "папраўвачка" нярэдка ўшчэнт скажае сэнс паведамлення. Прыклад таму — апошнія падзеі, звязаныя са скасаваннем дзяржаўных камітэтаў па тэлебачанню і радыёвяшчанню і па друку. У асвятленні гэтых праблем выявілася менавіта такая скасабочанасць. Не варта зараз называць усе выданні, якія так ці інакш закрануліся да гэтай тэмы і ўнеслі свой "уклад" у карэкціроўку рэальнага становішча спраў. Прыгадаю толькі нядаўнюю публікацыю "Добрага вечара". Там ідзе гутарка пра канферэнцыю Незалежнага прафсаюза гарнякоў. Яна выказалася ў падтрымку некаторых выданняў, на якія нібыта вядзецца ганенне. Пасля цытаты са звароту, прынятага канферэнцыяй, ідзе каментарый журналіста: "Адказнасць за рэпрэсіі супраць журналістаў, у прыватнасці, газеты "Свабода", праграмы "Радыёфакт" і вядучай "НІКі" Марыны Бабкінай, у свой час падтрымаўшых бастуючых шахцёраў, канферэнцыя НПГБ ускладае на ўрад Рэспублікі, а таксама на міністра інфармацыі А. Бутэвіча".

Я хацеў бы сказаць і прафсаюзу, і аўтару, і газеце "Добры вечар", што ўсё гэта мякка кажучы, не адпавядае сапраўднасці, а калі шчыра — то зусім няпраўда. Ніякіх рэпрэсій ні супраць "Радыёфакта", ні супраць "НІКі", ні супраць Марыны Бабкінай ні з боку ўрада, ні з боку міністэрства не было. Дарэчы, журналісты "Радыёфакта" на гэты конт выказваліся адназначна, адмежаваўшыся ад пазіцыі "Добрага вечара". Калі газета "Свабода" лічыць рэпрэсіяй тое, што на яе падалі ў суд і працэс ёю быў прайграны, дык у любой цывілізаванай краіне канфлікт павінен вырашацца толькі ў законным парадку.

Іншая справа, калі асобныя журналісты чуюць толькі тое, што ім выгадна чуць. Зноў паўтараю, прэса павінна быць сумленнай, толькі тады яна будзе патрэбнай і зможа прэтэндаваць на ўплыў. У адваротным выпадку прэса можа, як ні дзіўна, стаць ачагом канфлікту.

**– Але ж у свой час нас вучылі на журфаку, што на Захадзе, у капіталістычным грамадстве, журналіст становіцца незалежным толькі тады, калі на ягоным банкаўскім рахунку з'яўляецца першы мільён...**

— Тады вы так прама і гаварыце, што прэса павінна быць эканамічна незалежнай. А свабода прэсы — гэта не толькі, а можа і не столькі эканамічная незалежнасць. Гэта больш шырокае і ёмістае паняцце. Трэба мець права выказаць свае погляды, права на доступ да інфармацыі і г.д. У нас жа, пры нашым сённяшнім расхэйдусе, у большасці выпадкаў выступае як разуменне свабоды эканамічнай, якая зводзіцца толькі да самога фізічнага існавання газет. Урэшце, можа існаваць і такі падыход. Тады ўжо вы, як валадар пэўнага капіталу, выбіраеце, куды яго ўкласці: заняцца камерцыяй, адкрыць сваё прадпрыемства і г.д.

Што ж да сродкаў масавай інфармацыі, дык сёння матэрыяльнае выжыванне важна для ўсіх. Міністэрства інфармацыі якраз на першы план вылучае задачу дзяржаўнага рэгулявання ў сферы сродкаў масавай інфармацыі, іх дзяржаўнай падтрымкі.

**– Што Вы ўключаеце ў паняцце рэгулявання?**

— А Вы ведаеце, па якіх законах зараз жыве беларуская прэса? Па саюзнаму "Закону аб друку". Хіба ж гэтага дастаткова? Нам трэба прыняць свае, уласныя, законы — Закон аб выдавецкай дзейнасці, Закон аб радыё і тэлебачанні, Закон аб дзяржаўнай тайне, Закон аб аўтарскім праве... Ніякай заканадаўчай базы на сённяшні дзень у нас няма наогул. Акрамя законаў, набіраецца яшчэ шмат розных падзаконных актаў. Менавіта стварэнне заканадаўчай базы я і лічу трывалым падмуркам дзяржаўнага рэгулявання. Прынцыпы работы як сродкаў масавай інфармацыі, так і міністэрства павінны грунтавацца толькі на законных умовах. У некаторых выпадках на нас, на міністэрства, спрабавалі націскаць — маўляў, закрыйце адны газеты, падтрымайце другія... Але гэта ўсё з вобласці эмоцый. Мы павінны грунтавацца толькі на Законе аб друку, у адпаведнасці з якім маем права прымяняць пэўныя санкцыі. І не больш. Ні якія жаданні міністра альбо міністэрства не могуць уплываць на лёс таго ці іншага сродку масавай інфармацыі.

Другая пазіцыя — гэта сфера матэрыяльнай падтрымкі сродкаў масавай інфармацыі. Калі мы не будзем падтрымліваць іх, непатрэбным стане і міністэрства. Зараз ёсць два напрамкі, па якіх ідзе работа. Першы — дзяржаўны заказ, а гэта значыць забеспячэнне паперай і паліграфічнымі магутнасцямі. І другі напрамак — гэта дзяржаўная фінансавая падтрымка і стварэнне сваёй матэрыяльна-тэхнічнай базы. Што датычыць першай пазіцыі, дык абсалютная большасць газет мае магчымасць карыстацца паліграфічнай базай Беларусі. З паперай крыху цяжэй. Таму многія з наваствораных выданняў паперай самазабяспечваюцца. У першую чаргу папера паступае дзяржаўным выданням, беларускамоўным і дзіцячым газетам і часопісам, нацыянальна-культурным выданням, а таксама выданням некаторых грамадскіх арганізацый, накшталт таварыства інвалідаў.

Дзяржаўную датацыю наша міністэрства атрымлівае на 18 выданняў. Акрамя таго, ёсць і іншыя аб'екты дзяржаўнага фінансавання. Але ж не трэба забывацца, што Дзяржбюджэт не бяздонны...

Ёсць яшчэ адна катэгорыя друку, якую імкнецца падтрымаць дзяржава. Гэта мясцовы друк. Праўда, да канца года выдзеленых сродкаў яму, відаць, не хопіць, але ж у гэтых умовах капейка дарагая. А вось літаратурна-мастацкія і дзіцячыя выданні забяспечваюцца цалкам. Вядома, у агульнай масе 18 назваў невялічкая частка. Але вельмі важная. Хіба ж мы пабагацелі б, калі б страцілі дзіцячыя ды літаратурна-мастацкія выданні?

**– А як Вы ставіцеся да таго, што органы ўлады, будзем так казаць, "падмінаюць" пад сябе, становяцца заснавальнікамі не аднаго, а нават некалькіх выданняў?**

— Я б не рабіў такі акцэнт. Ніхто нікога пад сябе не "падмінае". Закон дае магчымасць любой арганізацыі і асобе ствараць сродкі масавай інфармацыі. Калі б ваша фінансавае становішча дазволіла стварыць 10 газет, дык няўжо вы гэтым узурпіравалі б права на прэсу?

**– Але ж як тады можа ажыццявіцца права на крытыку?**

—А няўжо ва ўрадавых газетах — у той жа "Звяздзе","Рэспубліцы", "Народнай газеце", "Советской Белоруссии" або ў парламенцкай "Народнай газеце" няма крытыкі?

**– Заснавальніка крытыкаваць не так лёгка – матэрыяльнае становішча газеты залежыць ад яго...**

— Не магу з вамі пагадзіцца. Бо справа не столькі ў фінансах, колькі ў пазіцыі рэдакцыі. На мой погляд, тут ёсць два аспекты: першы — гэта, як я ўжо казаў, сумленнасць, аб'ектыўнасць журналіста, а вось другі — гэта імкненне "падагрэць" сітуацыю. А гэта ўжо не крытыка, а крытыканства. У крытыцы павінны быць не эмоцыі, а факты.

**– Як, на вашу думку, ці можна гаварыць пра такое паняцце, як аўтарытэт беларускай прэсы?**

— Можна. Беларуская прэса мае свой твар, свой воблік, сваю рэпутацыю і, урэшце, свайго сталага чытача. А ён у сваю чаргу мае права выбару. У рэспубліцы выходзіць 585 газет і часопісаў. І ніводнае з гэтых выданняў не закрылася. Праўда, мы скасавалі некалькі рэгістрацыйных пасведчанняў, але толькі таму, што іх гаспадары не скарысталі на працягу года права на сваю выдавецкую дзейнасць. Гэта зроблена на падставе Закона аб друку.

І на што я хацеў бы яшчэ звярнуць увагу — дык гэта на тое, што прэса павінна ўмець праводзіць дзяржаўную палітыку. Падкрэслю — умець праводзіць. На жаль, не ўсе гэта ўмеюць і не ўсе гэтага хочуць. Мы стварылі сваю дзяржаву, імкнёмся ў вялікі свет, і хто, як не прэса, павінен даносіць да вялікага свету нашу палітыку, нашы інтарэсы? Калі ж мы будзем свядома дбаць пра тое, каб ў прэсе было ўсё толькі адмоўнае, толькі крытычнае, каб гучала знарочыстая апазіцыя да органаў улады, то як на гэта адрэагуюць іншыя народы? Маўляў, самі ў сябе разабрацца не можаце, а жадаеце мець стасункі з вялікім светам... Дык давайце будзем знаходзіць магчымасці разумна падтрымліваць дзяржаўную палітыку!

Возьмем, напрыклад, палітыку ў галіне мовы. На жаль, апошнім часам некаторыя сродкі масавай інфармацыі адгукаюцца на яе, скажам прама, не па-дзяржаўнаму. Раптам з'явіўся шэраг сацыялагічных даследаванняў публікацый у падтрымку двухмоўя, за прыярытэт рускай мовы.І вось ужо робяцца высновы, што трэба альбо мяняць Закон аб мовах, альбо ставіць пытанне на рэферэндум. Я ж сцвярджаю, што роднай мове, як і роднай маці, ніякі рэферэндум не патрэбен! Гэта тое ж самае, што ў вашай вёсцы праводзіць рэферэндум "ці родная вам ваша маці, альбо суседка таксама мае на вас нейкія правы". Вось вам і дзяржаўная палітыка. І такія прыклады можна множыць.



Тое ж самае датычыцца адносін да ўрада, Вярхоўнага Савета. Няўжо яны стаяць у апазіцыі да народа і дзейнічаюць наперакор народным інтарэсам? Любы свядомы чалавек перш падумае, чым такое заявіць. Калі мы будзем спакойна, разважліва, зацікаўлена вышукваць памылкі, падказваць, як паправіць становішча, тады нас будуць разумець больш. Не трэба, канешне, замазваць вочы на недахопы. Проста трэба вучыцца праводзіць дзяржаўную палітыку, быць аб'ектыўным і прынцыповым.

**– А які лёс напаткае Беларускае тэлебачанне і радыё?**

— Пасля таго, як быў скасаваны Дзяржаўны камітэт па тэлебачанню і радыёвяшчанню пастановай Саўміна ад 6 мая створана Нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Беларусі. Зараз ідзе працэс яе практычнага станаўлення. А ўсе чуткі пра тое, што, маўляў, усіх там пазвальнялі, зводзяць рахункі не больш, чым непацверджаныя чуткі. Усё адбываецца ў адпаведнасці з законам.

**– Анатоль Іванавіч, сродкі масавай інфармацыі не могуць усё жыццё сядзець на бюджэце...**

— Вядома, і менавіта таму наша міністэрства будзе дапамагаць ім у рэалізацыі праграм самаразвіцця, той жа самай камерцыі. Без гэтага будзе вельмі цяжка. І такія прыклады ўжо ёсць, нават на раённым узроўні: прынамсі, нясвіжская раёнка набыла камп'ютэр, і цяпер аказвае паслугі ў наборы тэксту. Нават кніжкі мае намер выдаваць. Я не гавару ўжо пра рэспубліканскія газеты, якія проста павінны мець свае камерцыйныя структуры. Рынак ёсць рынак. Хто не прыстасуецца, той... Пакуль што, праўда, ніхто не збанкрутаваў. Хачу спадзявацца, што так будзе і далей.

Будзем папраўляць справы і на тэлебачанні. Толькі нядаўна ўрад выдзеліў 50 мільёнаў рублёў на абнаўленне тэхнікі. І зноў да пытання аб неабходнасці Міністэрства інфармацыі: пагадзіцеся, дзвюма рукамі лягчэй рабіць справу, чым адной. Таму ж тэлебачанню будзе лягчэй вырашаць свае праблемы разам з міністэрствам. Пакуль у нас вельмі слабая матэрыяльна-тэхнічная база, пакуль ідзе працэс уваходжання ў рынак, разам нам лягчэй аб'яднаць намаганні ўсіх сродкаў масавай інфармацыі і абараніць сябе. Міністэрства інфармацыі патрэбна зараз нават як пасрэднік паміж дзяржаваю і прэсай, як форма дзяржаўнага забеспячэння дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі. Тое ж і з кнігамі, — наша задача забяспечыць дзяржаўныя гарантыі для выдання на сацыяльна неабходнай літаратуры і захаваць на яе даступныя цэны. Тут без датацыі не абыдзешся. Беларусь першая ў былым Саюзе увяла датацыю на падручнікі, літаратуру на роднай мове, дзіцячую літаратуру, на шэраг даведачных выданняў. 50 працэнтаў сабекошту гэтых кніг пакрывае дзяржава, астатняе ж — самі выдавецтвы за кошт выпуску камерцыйнай літаратуры. Чаму дзяржава забяспечвае пэўныя прыярытэты? Сёння існуе толькі дзесяць дзяржаўных выдавецтваў і больш за трыста арганізацый, якія займаюцца выдавецкай дзейнасцю. А вось сацыяльна значную літаратуру, кнігі на беларускай мове, акрамя дзяржаўных выдавецтваў, не выпускае, за рэдкім выключэннем, практычна ніхто. Наша задача — зацікавіць усіх, эканамічна зацікавіць у выпуску літаратуры патрэбнай для народа, для развіцця яго культуры, духоўнасці, мовы. Такія захады робяцца.

**– Анатоль Іванавіч, некалькі слоў для чытачоў і супрацоўнікаў "Чырвонай змены"...**

— Павінен прызнацца, што мне "Чырвонка", яе калектыў практычна далі пуцёўку ў жыццё. Пасля БелТА пяць гадоў адпрацаваў тут... "Чырвоная змена" магла і можа быць маладзёжнай газетай. Праўда, мушу сказаць, што вы часам таксама ідзяце за кан'юнктурай, хочаце патрапіць на ўсе густы. Гэтага рабіць не трэба. "Чырвонка" заўжды адрознівалася тым, што ў яе была свая пазіцыя, яе паважалі і чыталі. А калі аддаваць перавагу "Дзяўчыне тыдня", то гэта проста пагоня за таннай папулярнасцю. Не трэба страчваць традыцыі, якія на працягу доўгіх гадоў выводзілі "Чырвонку" ў разрад салідных, уплывовых выданняў. А чытачам хачу пажадаць заўсёды заставацца прыхільнікамі вашай газеты.

Гутарку вёў
Алесь ПАЛЫНСКІ.

*Заўтра было Купалле*

# БАЛЬ ПАД ЧАС ЧУМЫ

Горад млеў, раствараючыся ў спякоце, штодзённай, назойлівай, гняўлівай. Людзі жылі тут, на асфальце, нібы на вялізарнай патэльні. І не жылі зусім — так, адбывалі працоўную павіннасць, чакаючы выхадных. Тады ўцякалі хто на возера, хто хаваўся ва ўласнай "фазэндзе", пад шатамі дрэваў, у прахалодзе. Ад самага пачатку вясны заблудзіліся сюды дажджы са два, астатнія ж абміналі гэтае месца, нібы выклятае богам. На агародах, у палісадах нічога не хацела расці, а што вырасла, засыхала, захлынуўшыся ў гарачым пыле ды асфальтавым смуродзе.

Не ратавалі гараджан ні бочкі з дарагім, рублёвым квасам, ні дзіцячае кафэ, мабыць, адзінае месца, дзе можна было надыбаць марожанага, няхай сабе і за "вавёрку". Яно не шкада, бо рубель — не грошы, дый "вавёрка" — не канкурэнт на тым паўдзікім звярыным рынку, у які во ўступілі, нібы ў багну. І вечна мы куды-небудзь уступім. Людзі жартуюць: не май сто сяброў, а май сто "зуброў". Жартуюць, а смяяцца не хочацца, бо ў людзей і праўда, мабыць, нічога не засталося за душою, калі нават на грашах нічога лепшага не змаглі намаляваць, як ваўкоў. Воўчыя парадкі — воўчыя грошы. Новае пакаленне выбірае...

Бадай, адзіная ў Лепелі культурная ўстанова, якая кагадзе ўдала справіла наваселле — школа мастацтваў. Атабарылася яна ў будынку былога райкома партыі і цяпер — кум каралю. Праўда, яшчэ і зараз, мабыць, па старой памяці, гарвыканкомаўцы праводзяць там свае сесіі — ну й мастакі! — ды музыка ўжо іграе іншая, па-іншаму трэба і скакаць. А сам аддзел культуры выканкома перайшоў... у былую музычную школу (а яшчэ раней — паліклініку) — такая вось ракіроўка. Даўжэзны вузкі калідор, стэрыльна-белы і мноства кабінецікаў абапал — карэнны гараджанін, зайшоўшы, абавязкова згадае бальніцу і нават шморгне носам, нібы злавіўшы звыклы пах. Не, бальніцаю тут не пахне, хаця і культура пакутуе сякімі-такімі хваробамі...

Прыемная прахалода ў раённым (ён жа і гарадскі) Доме культуры — адхланне ад спякоты. Але дырэктар Тамара Казіміраўна Харкевіч не спяшае падзяліць мой аптымізм. Мацае батарэі і прызнаецца:

— Такое ўражанне, нібы падключылі ацяпленне.

— Хіба гарачыя?!

— Ды не, наадварот. Але не халодныя. Ды яны зімой і летам адным цветам, а таму не разабраць.

Тамара Казіміраўна спяшаецца. Неўзабаве паедзем кагалам за горад, на Святое возера, аглядаць пляцоўкі для купальскага свята, а таму размова атрымоўваецца кароткая і сумбурная.

— Тамара Казіміраўна, ведаю, што грашыма вас, культасветработнікаў, не асабліва песцяць. А таму, што б вы зрабілі, каб у вас, дырэктара, раптам паявіліся грошы, многа грошай?

— Зрабіла б рамонт. Пачынаючы з даху і заканчваючы... Хаця не. Без толку. Трэба будаваць новы... Я пабудавала б новы Дом культуры.

— А гэты?

— А гэты будынак аддалі б кіношнікам. Усё роўна яны арандуюць у нас залу... Зразумейце, мы маем свой тэатр, зараз ужо народны, так што лягчэй — ёсць хаця б стаўка для кіраўніка. Маем хор ветэранаў, таксама сёлета абаранілі званне народнага...

— Прабачце, нешта не разумею. Хіба так прынцыпова — мець званне?

— А як жа! Грошы. Народныя калектывы фінансуе дзяржава, а самадзейныя — на гасразліку. Ну, колькі тут заробіш на канцэртах у нашым маленькім Лепелі? А бюджэт, што выдзяляе на РДК гарвыканкам, і так трашчыць па швах... Нарэшце, у нас ёсць мастацкія, фальклорныя калектывы, ёсць студыя бальных танцаў, але няма касцюмернай, і дзецям нават няма дзе пераапрануцца. А халадна зімою. Зімою тут, як у халадзільніку. Вось і загартоўваюцца юныя танцоры. І асвятленне трэба мяняць, і бюджэтных ставак не зашкодзіла б нам болей мець. Усюды грошы, грошы. Кожны год прыязджаюць пажарнікі і закрываюць наш Дом культуры, нават надакучыла.

— І тады вы працуеце ў падполлі?

Дзверы ў кабінет дырэктара раз-пораз адчыняюцца — нас чакае аўтобус.

Ехаць да Святога возера недалёка. Колькі хвілін — і мы на яго беразе, стромым і голым. Завецца Лысай гарой. Не ведаю, ці водзіцца тут славуты Вядзьмак Лысагорскі, затое бачу: водзіцца багата бітага шкла. Па ўсім відаць, бутэлькі білі яшчэ да падаражання. На самай макаўцы застаўся шкілет колішняе тэатральнае сцэны, яшчэ не ўсе дошкі паспелі парасцягваць тутэйшыя жыхары. А дошкі зараз — дэфіцыт. І — адзінокія самотныя арэлі гайдае вецер. Тут будзе Купалле. Грандыёзнае, шоу ці не абласнога маштабу. Ну, і работкі ж тут, скажу вам. А пакуль — толькі планы ды накіды. Дзяўчаты спрачаюцца, удакладняюць, нешта пазначаюць у блакноціках, пакуль схематычна, бо хто ведае, но прыедуць з гарвыканкома ды закамандуюць па-іншаму. А на прыродзе дзяўчаты, далібог, ажылі, павесялелі, папрыгажэлі, свежае паветра ім да твару... А пачынаць тут трэба ўсё ж з суботніка, інакш дзеці параніць ногі. І возера, гляджу, зусім не святое, а нейкае маленькае, някідкае, болей падобнае да копанкі. З берагу парасло балотнаю травою ды раскаю пакрылася. Лілеі — жоўтыя гарлачыкі — паднялі цікаўныя галовы. Праўда, на тым беразе — прыгажэй і цікавей, бадай, там — лес, і ёсць дзе пашукаць папараць-кветку. Але Купалле будуць ладзіць тут, на пустэчы. Традыцыя. Прыехаў аднаго разу з Віцебска нейкі высокі начальнік і ўпадабаў чамусьці Лысую гару. Вось і пайшла традыцыя. А ў гарадскім парку, ля фантана, на беразе вялікага Лепельскага возера, дзе, калі верыць Караткевічу, жыў некалі цмок, мабыць, было б і цікавей і рамантычней, і... эканамічней. Гэта ж колькі аднаго бензіну трэба — перавезці горад за горад. Да нічога не зробіш — традыцыя. Як стала традыцыяй таксама ладзіць у Лепелі купальскае свята пышнае, пампезнае, прама скажам, не па кішэні. Быццам ад пампезнасці выйграе сама ідэя...

— А што, дзяўчаты, немалыя, мабыць, грошыкі пагараць на купальскім вогнішчы?

— Кажуць, сто восемдзесят тысяч.

— Жартуеце! Дзе ж бо культуры бедный такія ўзяць?

— Скінуцца прадпрыемствы, не забудзе і гарвыканкам.

— Дзіва што. Кажуць, Купала — усе прапала, але каб гэтулькі... І куды, прабачце, пойдуць гэтыя тысячы?

— Куды? Адных "Песняроў" запрашаем — пяцьдзесят тысяч просяць. На вадзе будуць плыты, на плытах будуць гарэць вогнішчы. Гандаль будзе, фейерверкі — прыгажа.

Прыгожа... Баль пад час чумы. Во якіх грошыкаў не можа дачакацца той жа Дом культуры, ды ці ён адзін. Чуеце, паважаныя прадпрыемствы-фундатары? Чуеце, паважаныя спадары-таварышы, у чыіх руках гарадскі ды раённы бюджэт? Ці вы думаеце, што для сапраўднай народнай весялосці не хапіла б аднаго-адзінага вогнішча? Ці вы лічыце, што капрызныя "Песняры" прыдадуць святу большую самабытнасць ды каларыт, чымся мясцовыя калектывы? І што, скажыце, за сверб такі, і што, скажыце, за краіна такая: а ці кастрычніцкія святы, а ці язычніцкія — абавязкова толькі ў стылі манументалізму і ніяк інакш.

Прабач, Купалле! Бо я ведаю, табе заўсёды было нялёгка, а выжыла, а захавалася з даўніх даўнін і нарэшце перамагло таму толькі, што народным было па-сутнасці, а не на словах.

Прабач, Купалле! Бо мне яшчэ добра ў памяць тыя часіны, калі да вогнішча твайго высокае начальства ехала не святкаваць, а за жандарма: няйначай як на міліцэйскім "газіку", разам з інспектарам па справах непаўналетніх, разам з камсамольскім важаком, маральны кодэкс якога не стасаваўся з тваімі "забабонамі". І мне тады яшчэ не раз даводзілася абараняць цябе. І ніколі не падумаў бы, што зноў вярнуся да гэтае тэмы, толькі ўжо з другога боку.

Прабач, Купалле, за нечаканы паварот тэмы. Але ж калі развальваецца Дом культуры, калі няма ўласнага кінатэатра, калі раённая Дошка гонару, якую, зрэшты, нядаўна ж абнаўлялі, паранейшаму застаецца "доской почета", хіба што зніклі некуды "победители социалистического сорвнования" ды галава Леніна (а потым скажуць, што на беларусізацыю сродкаў не хапае), калі тое ж купальскае свята ў сельскай мясцовасці як было, так і застаецца закінутым, занядбаным, і няма нікому справы, што падлеткі вясковыя змушаны красці аўтапакрышкі для вогнішча ды ад сумоты ламаць у вёсцы платы; калі яшчэ не выспела культура для ўспрыняцця нацыянальнае ідэі — ці да фейерверкаў на Святым возеры?

— Прыязджайце на свята, — шчыра запрашаюць дзяўчаты напрыканцы. — Убачыце шмат цікавага.

— Дзякую.

Убачу, як па вадзе пускаюць вянкі, а па ветры — грошы. Весела... "Пакажыце мне такую краіну...".

Уладзімір Міхно.






# ЛІПЕНЬ

*Лета ў разгары. Вясковыя вуліцы поўняцца водарам квітучай ліпы. Нездарма ж і месяц гэты называецца ліпень. Вакол маленькіх белых кветачак гудуць тысячы пчол. Ліпавы мёд — каштоўны лекавы прадукт. Цяпер самы час рыхтаваць на зіму кветкі ліпы. Рабіць гэта патрэбна ў самым пачатку цвіцення і абавязкова ў сухое надвор'е. Здаўна ў народзе выкарыстоўваюць ліпавы чай для лячэння розных прастудных захворванняў.*

### 3. Пятніца.

Дзень вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

### 6. Панядзелак.

70 гадоў з дня нараджэння (1922) Я.М.Рамановіч, беларускага мовазнаўца.

## КУПАЛЛЕ

У ноч з 6 на 7 ліпеня (з 23 на 24 чэрвеня па ст.ст.) у Беларусі адзначалася адно з самых прыгажэйшых і паэтычных народных свят — Купалле. Усё навакол здавалася ў гэту ноч незвычайным, узвышаным, непаўторным. Фантастычнае купальскае вогнішча, казачная прыгажосць, пошукі папараць-кветкі, прысутнасць разнастайных духаў... Напярэдадні Купалля хлопцы і дзяўчаты выбіралі лідэра са свайго асяроддзя, які кіраваў масавым шэсцем моладзі па вуліцах вёскі. Усе ўдзельнікі ўпрыгожвалі сябе зелянінай, дзяўчаты — вянкамі, падпярэзваліся паясамі з палыну, запальвалі доўгія шасты і з песнямі, крыкамі, галёканнем падыходзілі да кожнага дома, запрашалі ўсіх на свята. Хлопцы і дзяўчаты гулялі ўсю ноч вакол купальскага вогнішча, вадзілі карагоды, скакалі праз касцёр, гатавалі сумесную вячэру, дзяўчаты плялі вянкі і пускалі іх на ваду, загадваючы аб будучым замужжы. Верылі, што купальскі агонь валодаў незвычайнай сілай, таму часта на кастры спальвалі кашулькі хворых дзяцей, каб яны хутчэй выздаравелі. Старыя людзі, кідаючы ў касцёр старыя непатрэбныя рэчы, прасілі багатага ўраджаю лёну, жыта і г.д. Лічылася, што ў гэту ноч актывізаваліся розныя нячысцікі, ведзьмы. Каб засцерагчыся ад іх, у жыта кідалі галавешкі, на ганку хлявоў клалі крапіву, коней не вадзілі на начлег.

Усю ноч каля купальскага вогнішча гучалі песні, музыка, смех. Раніцай ішлі сустракаць узыход сонца. Існаваў звычай качацца галяком у ранішняй расе, каб набрацца здароўя і прыгажосці. Уздзеянне фантастычнай казачнай ночы працягвалася... І тое, што ў звычайным паўсядзённым жыцці лічылася грахом, тут традыцыйна ўспрымалася як абрадавае дзеянне, накіраванае на забеспячэнне здароўя, багатага ўраджаю на ніве, плоднасці статка.

*Раскладвайце, паліце Купалля агні!*
*Не затым, каб ускрэсла мінуўшчына,*
*А каб лепей убачыць наступныя дні,*
*Да вытокаў душой дакрануўшыся.*

*(Ніл Гілевіч)*

Таццяна Кухаронак.

### 7. Аўторак.

110 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы (сапр.Луцэвіч Іван Дамінікавіч) (1882–1942), народнага паэта Беларусі.

### 10. Пятніца.

50 гадоў з дня нараджэння (1942) П.І.Клімука, лётчыка-касманаўта.

### 12. Нядзеля.

Пятро і Павел (Пятрок).

Невядома, якое па назве свята папярэднічала дню Пятра ў дахрысціянскія часы, бо назва ягоная не захавалася. Царквой да яго былі прыстасаваны святы ў гонар апосталаў Пятра і Паўла. Па часе Пятрок адзначаўся праз пяць дзён пасля Купалля і нібыта працягваў купальскія гулянні. Святы Пётра лічыўся ў народзе апекуном хлебаробскай працы. Пасля Пятра лета пачынала хіліцца да восені, і сведчаннем таму наша прымаўка: "Прыйшоў Пятрок — апаў лісток". У добрае надвор'е, а яно ў тыя часы не давала такіх неспадзяваных халадоў і дажджу летам, з Пятра пачыналі сенакос. Тут трэба было добра папрацаваць, і вельмі патрэбнай стане скварка і вяндлінка, прыхаваная з каляд.

• *Калі на Тройцу дзяўчаты куміліся між сабой, то на Пятра ўжо куміліся з хлопцамі. Гэты звычай быў распаўсюджаны больш на ўсходзе Беларусі.*

• *На Пятра, як і на Купалле, моладзь веселілася: наладжвалі карагоды, раскладвалі вогнішчы.*

• *Калі на Тройцу дзяўчаты "завівалі" бярозкі, сплятаючы вецейка бярозак-суседак, то на Пятра іх развівалі.*

• *Восень толькі яшчэ нагадвала пра сябе першым апаўшым лістком, а пара была цёплая, летняя, ноч — кароткая: "Ой-то-то. Пятрова ночка невялічка. Ня выспалася паненка".*

А.Райкова.

### 21. Аўторак.

395 гадоў з часу атрымання (1597) Віцебскам магдэбургскага права.

### 27. Панядзелак.

Дзень абвяшчэння дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі (Дзень незалежнасці). Нацыянальнае свята Беларусі.

*110 гадоў з дня нараджэння Янкі Купалы*



Магутнае слова, ты, роднае слова!
Са мной ты на яве і ў сне;
Душу мне затрэсла пагудкаю новай,
Ты песень навучыла мяне.
Бяссмертнае слова, ты, роднае слова!
Ты крыўды, няпраўды змагло;
Хоць гналі цябе, накладалі аковы,
Дый дарма: жывеш, як жыло!
Свабоднае слова, ты, роднае слова!
Зайграй ты смялей, весялей!
Хоць гадзіны сыкаюць, кружацца совы,
Жывеш ты на хвалу людзей.
Загнанае слова, ты, роднае слова!
Грымі ж над радзімай зямлёй:
Што родная мова, хоць бедная мова,
Мілей найбагатшай чужой!

Янка КУПАЛА

*Легенды*

## ЛЫСАЯ ГАРА
### У ноч на Купалле

... Гадоў сто, а можа, і дзвесце назад у ноч на Купалле ведзьмы і лесуны абралі пад свае скокі самы стары на Лысай Гары ясень. З-пад яго густой кароны разносіліся па наваколлі смех, свіст, нейкая бязладная гаворка. Лысагорцы, пачуўшы вядзьмарскае ўлюлюканне, пахаваліся ў сваіх хацінах. Адзін толькі малады каваль, асілак Янка, не спалохаўся. Ён шпацыраваў са сваёй дзяўчынай Марыйкай і не звяртаў аніякай увагі на ўвесь гэты д'ябальскі вэрхал. Але раптам з ніжняй галіны ясеня працягнулася белая, як снег, рука і салодкі голас паклікаў:

— Ідзі, Марыйка, ідзі да нас у карагод!..

Марыйка падала руку — і як у пастку трапіла. Пацягнула яе невядомая сіла ўверх, на ясень. Добра яшчэ, што Янка паспеў ухапіцца за яе. Расставіў ногі, упёрся магутнымі плячамі ў дрэва і не пускае. А зверху рагочуць ды прыгаворваюць:

— Позна, Янка, позна. Марыйка сама згадзілася, не твая яна ўжо, а наша. Пусці, пакуль дабром просім...

Разззлаваўся асілак-каваль, мацнейшым у сем разоў зрабіўся. Паднатужыўся ды так ірвануў з учэпістых пальцаў сваю каханую, што разам з ёй сцягнуў з ясеня цэлы тузін звязаных адной вяроўкай ведзьмакоў-страшыдлаў. Адразу сціх рогат, пачалі ведзьмакі плакаць-рыдаць, прасіць Янку, каб падсадзіў іх на ясень. Золата, брыльянты абяцалі. Янка загадаў Марыйцы заплюшчыць вочы, а сам ухапіў за чупрыну лесуна, пацягнуў увесь іх паганы карагод да гнілой сажалкі, што была каля падножжа Лысай Гары, і спіхнуў у дрыгву. Закіпеў бруд балотны, і ў адно імгненне выпарылася, высахла тая сажалка.

З таго часу на старым лысагорскім ясені, названым у гонар смелага каваля-асілка Янкавым, ніколі больш у ноч на Купалу аніякай нечысці не з'яўляецца. Нават калі дзьме моцны вецер, калі трымцяць, гудзяць усе суседнія дрэвы, Янкаў ясень стаіць і не варухнецца...

— Гэта дзіва, як ты
зацьменне сонца мог
— Вось штука! Г
кожнага календара м

Бывала, салдат, як
— Ой, яшчэ б дзес
А як уставаць:
— Ой, сёння б у за

— Еш, кумок, клё
гатавала.
— Дзякуй, кума, у
— Няпраўда, кумо

Прахожага сустрэў
— Прашу вас на хл
А той:
— Еш, браце, сам,

# Наступ каталіцызму на Усход

Пакарыць хрысціянскі Усход заўсёды было намерам папаў рымскіх. Метады дасягнення гэтых планаў мяняліся згодна з палітычнымі мажлівасцямі і абставінамі. Яны праводзіліся войнамі, насіллем, гвалтам і ашуканствам. Рэалізатары гэтых зацеяў не грэбавалі нічым, нягледзячы на нізкасць маралі свайго дзеяння, а ні на хрысціянскія прынцыпы.

Пасля вайны гвалтоўныя захопы сталіся немажлівымі, бо паняцці людзей змяніліся. II-гі Ватыканскі Сабор умажлівіў пэўнае збліжэнне і дыялог паміж хрысціянамі. Праваслаўным здавалася, што план т.зв. "апасталізацыі Усходу", а гэта — усялякімі мерамі акаталізаваць усходняе праваслаўе, быў як бы пахаваны.

Яшчэ адно: пару гадоў таму, у чэрвені 1990 г. было падпісана пагадненне, у якім гаворыцца, што "ўсякае імкненне прыцягнуць веруючых адной царквы ў другую, што называецца празэлітызмам, трэба выключыць як зваротлівасць пастарскай дзейнасці" і таму падобнае.

Аднак жа сёння, калі распалася камуністычная Савецкая імперыя і паўсталі нечаканыя магчымасці ажыццявіць старыя планы, Ватыкан ужо не мог паўстрымацца. Выгадней сталася паламаць дагаворы, чым чурацца прагі захопу і валодання.

Кіраўнік Ватыканскага місійнага аддзела, кардынал Ёзаф Томко, пачаў заклікаць да "сапраўды місійнага духу", каб Усходняя Еўропа "задыхала сапраўдным каталіцызмам". І тут падручнымі сталіся падрыхтаваныя кадры місіянераў апасталізацыі.

У вярбоўцы гэтых кадраў адзначыўся Русікум Калегіюм у Рыме. Там рыхтавалі місіянераў для Беларусі, Украіны, Расеі і на ўсе ўсходнія краіны Еўропы, рыма-калалікоў, уніятаў і розных экспертаў.

У акцыю апасталізацыі, па-за місіянерамі, далучыліся розныя цывільныя аматары, арганізацыі і групоўкі.

Калі ў Савецкім Саюзе быў выдадзены закон свабоды рэлігійнага вызнання, уся гэтая маса "апосталаў" пасунулася на Усход. Папа Ян Павал II выслаў сваіх епіскапаў у Менск, Маскву і іншыя гарады, нават далёка на Усход, дзе ніколі не было каталіцкіх епіскапаў. Усё гэта рабілася без паведамлення, узгаднення ці захавання дыпламатычнай этыкі міжцаркоўных зносін адносна патрыярхіі і іерархіі Праваслаўнай Царквы, на тэрыторыі якой гэта адбываецца. Там з'явіліся групоўкі місіянераў, высланыя з Польшчы і іншых краін Еўропы, Паўночнай Амерыкі і нават з Аўстраліі. Усе яны не маюць часу гуляць у экуменізм ці лічыцца з пачуццём праваслаўных. Яны прапаведуюць без разбору па вуліцах, раздаюць "цудатворныя" медальёны і прапаганду. Кардынал Касідзі, каменціруючы аб гэтым, прызнаўся: "Некаторыя людзі захапіліся працай зашчыра".

Рыма-каталіцкая іерархія палічыла ўважаць тэрыторыю былога Савецкага Саюза за велізарны місійны прастор — духовы вакуум. Яны зусім не лічацца з інтарэсамі Праваслаўнай Царквы і гэта не толькі ў былым Савецкім Саюзе, але Закарпацці, Румыніі, Югаславіі і ўсюды на сутыку.

Апрача рыма-каталікоў, уніятаў, насунуліся амерыканскія сектанцкія евангелісты, іегавісты, адвентысты, крышнаіты...

Каталіцкая царква перабрала меры ўзяць сваіх верных пад духоўную апеку і павяла правакацыйную празалітацыю, чым зламала папярэдняе пагадненне.

Зразумела, што ўсе прамесныя Праваслаўныя Цэрквы выявілі рэакцыю і складалі пратэсты ў Ватыкане. Бясспрэчна, што такі стан рэчаў пагражае поўнаму сарванню міжцаркоўных адносінаў і таго дыялога, які праводзіўся ў мэтах збліжэння і паяднання Усходняй і Заходняй Царквы.

Дык чым жа дзейнічае Ватыкан, аб'яднаннем ці захопам? Той, хто зразумеў істоту папства і ведае ягоную гісторыю, мае ясны адказ, пацверджаны навейшымі фактамі захопу.

У лістападзе мінулага года Праваслаўныя памесныя цэрквы адмовіліся паслаць сваіх назіральнікаў на скліканы папам сінод, які разважаў аб духоўным стане Еўропы, у знак пратэсту. Паехаў на гэты сінод толькі прадстаўнік Канстанцінапаля, які ад імя ўсіх Праваслаўных цэркваў выказаў там востры пратэст.

У сакавіку г.г. сабраліся праваслаўныя першаіерархі ў Стамбуле, каб разважыць палажэнне. Афіцыяльны каментатэр асведчыў: "Экуменізм распадаецца, дыялог спыніўся", аднак жа да поўнага разрыву суадносін не дайшло. Што будзе далей залежыць ад Ватыкана? І тут трэба памятаць, што польскі папа Павел II — гэта не папа Ян XXIII і Павел VI.

Хваля ватыканскага наступу праходзіць і на нашым беларускім адрэзку. Можа людзі, заклапочаныя праблемай кавалка хлеба, не бачаць, што робіцца навокал іх, але варожая палітыка не спіць, польскія ксяндзы — дзейнічаюць. Ды і нашыя каталікі ў змове з жменькай замежных уніятаў праводзяць прапаганду нейкай нацверы. Амерыканскія евангелісты заклікаюць усіх пад "адно супольнае евангелле" і ў многія пустыя душы засейваюць зерне.

Трэба ўсім памятаць словы Хрыста: "Не кожны, хто кажа Мне: "Госпадзе! Госпадзе!", увойдзе ў Царства Нябеснае..." (Мац. 7—21), а гэта значыць, што толькі Царква, якую Ён стварыў, мае права павучаць людзей.

Прага ўлады і фальшывыя канцэпцыі шкодзяць Царкве Божай, разбіваюць яны і еднасць народу і не нясуць яны міру для свету.

Знешнія зацеі будуць безвыніковыя, калі мы не навучымся быць мудрымі, бараніць і адстойваць тое, што даў нам Бог. шанаваць сваё, а гэтым — і бліжняга свайго. Калі ж мы гэтага не выканаем, то згубім тое, што маем, і станемся Іўдамі сваёй Бацькаўшчыны.

*Лондан*

М.Гаховіч,
"Голас часу".



## Ад рэдакцыі:

у далікатнасці рэлігійных праблем, у напружанай іх сукупнасці на Беларусі цяжка вызначыць аб'ектыўнае і суб'ектыўнае. Натуральна, гэты артыкул мае шэраг суб'ектыўных першаштуршкоў, якія, аднак, вынікаюць з канкрэтнай сітуацыі: калі ў Польшчы каталіцкі касцёл здолеў стаць сродкам яднання нацыі, Беларусь заўсёды раздзіралі "руская" ды "польская" вера. Розныя хрысціянскія канфесіі мелі сваю мэту, хоць і тая, і другая часам нават імкнуліся ўвайсці ў душу беларусу праз ягоную мову. Але тых святароў-"патрыётаў" было роўна столькі, каб паказаць "благие намерения", але зусім недастаткова, каб "тутэйшы чалавек" знайшоў у веры сваю Беларусь. Нам вядома нямала прыкладаў, калі святары, фармальна ўключаючыся ў беларусізацыю царквы, публічна называлі беларускую мову непрыдатнай для святога слова, для малітвы. Разам з тым, публікуючы артыкул М. Гаховіча і зварот БЗВ, мы не хочам абразіць пачуццяў вернікаў якойсьці адной канфесіі, каб агітаваць іх у іншую. Падобную тэму мы яшчэ не раз будзем уздымаць у розных аспектах. Галоўная наша мэта: засцерагчы свой народ, каб у пошуках веры ён не згубіў радзіму, каб беларус у сябе на радзіме раптам зноў не апынуўся палякам, рускім або ўвогуле касмапалітам.

# ЗВАРОТ

## Каардынацыйнай Рады Беларускага Згуртавання Вайскоўцаў

## Да Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь спадара Шушкевіча С. С.

## Да Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь спадара Кебіча В. Ф.

Над Беларуссю, над яе стабільнасцю і незалежнасцю навісае чарговая пагроза. На гэты раз з-за заходняй мяжы. Польскі каталіцкі касцёл узначаліў чарговы паход "на крэсы".

Адзін за другім цэлымі групамі пранікаюць на Беларусь польскія місіянеры. Сёння яны маюць выгляд святароў, мнішак, едуць як бы са словам Божым. На самай жа справе імі вядзецца нічым не прыкрытая,адкрытая прапаганда на карысць суседняй краіны — Польшчы.

У касцёлах вывешваюцца польскія сцягі, партрэты польскіх дзяржаўных дзеячаў. З амбона, у нядзельных школах, у гуртках мастацкай самадзейнасці ідзе безупынная прапольская прапаганда, пераконваюць людзей у тым, што яны не беларусы, а значна больш высокая і культурная раса, што яны палякі. На тэрыторыі незалежнай Беларусі фарміруецца пятая калона Вялікай Польшчы, рыхтуецца раскол нацыі, свой, памерам з палову Беларусі, Карабах. Падрываецца аўтарытэт Беларусі ў свеце. Іменна прапольскае лобі ў Ватыкане дасягнула таго, што Беларусь адзіная з усіх краін СНД не прызнана Ватыканам. Такое стаўленне да беларусаў і іх дзяржавы выглядае рэзкім дысанансам у параўнанні з добрасуседскімі адносінамі да нас брацкіх рускага і ўкраінскага народаў і лаяльнасцю да дзяржавы Праваслаўнай царквы.

Беларускае Згуртаванне Вайскоўцаў не можа мірыцца з тым, што на яго вачах ствараюцца ўмовы для стварэння канфліктнай сітуацыі. Таму БЗВ выступае з наступнымі патрабаваннямі.

Мы патрабуем сілай уладных структур:

1. Неадкладна спыніць антыбеларускую прапаганду польскіх каталіцкіх місіянераў на тэрыторыі Беларусі.
2. Забараніць усялякую дзейнасць польскіх святароў за межамі касцёлаў.
3. Выдаліць з Беларусі ўсіх польскіх місіянераў і каталіцкіх святароў за выключэннем ксяндзоў — настаяцеляў прыходаў і тых асоб, дзейнасць якіх абумоўлена міждзяржаўнымі пагадненнямі.
4. Забараніць ужыванне любой замежнай сімволікі ў касцёлах і цэрквах.
5. Вызначыць дзейнасць місіянераў на карысць любой суседняй краіны як антынародную і антыдзяржаўную з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі.
6. Накласці забарону на прыезд новых польскіх місіянераў на Беларусь і дазволіць для развязвання культавых праблем дзейнасць місіянераў са Славеніі, Чэха-Славакіі і Харватыі — краін, паважаючых наш суверэнітэт і блізкіх нам па мове і культуры.

Каардынацыйная Рада БЗВ выказвае спадзяванні, што Парламент і Урад Беларусі пачуюць нас і прымуць рашучыя захады дзеля абароны стабільнасці, цэласнасці і адзінства нашага народа і дзяржавы.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

*(Прынята на Каардынацыйнай Радзе БЗВ 13.06.92)*

Старшыня БЗВ
М. Статкевіч.

# ДЗЕЦІ ДАПАМАГАЮЦЬ ДЗЕЦЯМ

*Ідэя арганізацыі выстаў і продажу за мяжой малюнкаў беларускіх дзяцей "Я і Чарнобыль" нарадзілася ў нямецкай маладзёжнай арганізацыі "Крайсюгендрынг". Вясной жа 1991 года рэспубліканскае маладзёжнае аб'яднанне "Next stop — new life", МП "Эка-Экспрэс", рэдакцыя дзіцячых праграм Беларускага тэлебачання, Асацыяцыя дзіцячай прэсы сабралі дзіцячыя малюнкі для ўдзелу ў дабрачыннай акцыі. Свае творы прыслалі школы і студыі выяўленчага мастацтва, юныя мастакі з усёй Беларусі.*

ВЫСТАВЫ малюнкаў юных мастакоў наведалі тысячы людзей у Нямеччыне, Галандыі, Аўстрыі. Малюнкі набывалі банкі, мэрыі гарадоў, школы, прыватныя асобы. Некаторыя творы былі перададзены мастацкім галерэям і кнігарням для пастаяннай экспазіцыі. Кожны крок дабрачыннай акцыі адлюстроўваўся прэсай гэтых краін.

Летась 86 дзяцей з забруджаных раёнаў Беларусі атрымалі магчымасць адпачыць і паправіць здароўе на возеры Байкал. У тым ліку дзеці з Пінскага і Лельчыцкага раёнаў, якія лічацца "нармальнымі", але такімі не з'яўляюцца... Гэта стала магчымым дзякуючы паспяховаму правядзенню аўкцыёнаў у Галандыі. Спадар Глін, адзін з арганізатараў аўкцыёнаў, расказаў, чаму месцам адпачынку абраны менавіта Байкал. Гэта экалагічна чысты пакуль што куток на планеце, пуцёўка туды па кошту будзе льготнай і дасць магчымасць падлячыць большую колькасць дзяцей, вызваліць іх ад шоку, што звычайна атрымліваюць нашы дзеці, калі трапляюць на эканамічна развіты Захад.

АКЦЫЯ "Дзеці дапамагаюць дзецям" працягваецца ў Нямеччыне. Яе падтрымаў самы ўплывовы ў ФРГ "Дойчэ банк", які не толькі падрыхтаваў выставы ў Франкфурце-на-Майне (фінансавым сэрцы краіны) і Білефэльдзе, але і адкрыў спецыяльны рахунак для грошай, за якім сочаць кантралёры, каб сродкі не трапілі "налева". На ім — 26 тыс.нямецкіх марак.

У Акруговым банку Вельцхайма 26 красавіка — 8 мая 1992 г. нямецкая маладзёжная арганізацыя "Крайсюгендурынг" разам з міжнароднай арганізацыяй "The Company" арганізавалі выставу-продаж "Малюнкі з Чарнобыля". Дэманстраваліся 55 твораў. Атрымана 3,5 тысячы нямецкіх марак. Яшчэ тысячу далі арганізатарам выставы вучні гарадской гімназіі. Усе грошы будуць накіраваны на рэалізацыю праекта "Цэнтр адпачынку і лячэння на возеры Байкал".



АКЦЫЯ ПРАЦЯГВАЕЦЦА і ў Аўстрыі. Сябры з Вены стварылі перасоўную галерэю. Яна пераязджае з горада ў горад і збірае ахвяраванні. Яшчэ зімой назбіралі 14 тысяч даляраў.

Але дабрачынцы з-за мяжы ўсхваляваны, што не ўсе ахвяраванні трапляюць па адрасу. У свой час шмат грошай ААН перадаў дзецям Чарнобыля, але яны зніклі недзе ў Маскве, дзе былі выкарыстаны на падтрымку атамнай прамысловасці...

Сёння нашы замежныя сябры спрабуюць кантраляваць сітуацыю. Замест танных аднаразовых шпрыцаў набываецца дарагое медыцынскае абсталяванне, лекі, экалагічна чысты харч і вітаміны.




8 мая — 7 жніўня 120 беларускіх дзяцей прыме турбаза "Максіміха", што на Байкале.

31 мая "Нэкст Стоп — Нью Лайф" пры дапамозе Міністэрства адукацыі Беларусі і фінансавай падтрымцы Ашчаднага банка Рэспублікі Беларусь, каб аддзячыць беларускім дзецям, што прымалі ўдзел у акцыі, правялі свята ў Мінскім палацы дзяцей і юнацтва. Зразумела, нават тысячы дзіцячых малюнкаў не адвядуць бяду, але тое, што ў нас растуць дзеці, якія навучыліся дапамагаць, дорыць надзею.

Дарэчы, педагогі з мастацкіх студый Беларусі ўпершыню адчулі, што іх праца камусьці патрэбна. Раней, вядома, таксама праводзіліся шматлікія выставы, збіраліся сродкі, але юныя мастакі не бачылі ніколі выніку. Лепшыя працы знікалі за мяжой, а юным мастакам ніколі не казалі нават "дзякуй".

Тут жа яны адчулі сябе гаспадарамі свята. Гэта ім быў прысвечаны канцэрт у Мармуровай зале палаца, і да іх звярталіся намеснік міністра народнай адукацыі сп.Бутрым і госці з Нямеччыны.

У інтэрв'ю для нашай газеты Георгій Аляксеевіч Бутрым падзяліўся сваімі клопатамі:

— Калі дзеці могуць нешта зрабіць для сваіх аднагодкаў — гэта вельмі добра. Мы не лічым сябе спонсарамі сённяшняга свята, бо падтрымка ўсіх грамадскіх арганізацый, якія дапамагаюць дзецям развіць свой талент, — гэта абавязак Міністэрства народнай адукацыі. Гэта сэнс нашага жыцця. Толькі разам мы здолеем выканаць закон аб правах дзіцяці, які ўжо распрацаваны і будзе прадстаўлены ў парламент гэтым летам. Зараз пад Капылём праектуецца дзіцячая вёска-інтэрнат для дзяцей, якія пакутуюць ад чарнобыльскай бяды. Будаваць будуць нашы і нямецкія спецыялісты, але праекты будынкаў прапануюць самі дзеці...

**Паўлюк Быкоўскі.**

# ВЫХАВАННЕ ЖОРСТКАСЦЮ

*Ад гэтай хваробы не паміраюць. Але, заразіўшыся ёю, можна надоўга атруціць сабе жыццё. Я называю яе "сіндромам страху".*

КАЛІ ў вагон прыгараднага электрапоезда ўваходзіць чарговы "хлопчык" з даверху набітым рукзаком і просіць звярнуць на сябе ўвагу, я міжволі ўціскаю галаву ў плечы і заплюшчваю вочы. "Паважаныя пасажыры! Вам прапануецца газета... (варыянты назвы розныя), у якой вы зможаце прачытаць наступныя артыкулы:"Бацька, які гвалтаваў дачку", "Маньяк-забойца", "Трэці выбух", "Яго пыталі ў вязьніцы"... Кошт аднаго экземпляра... рублёў."

Заўважаю, што ў сваім падсвядомым жаданні схавацца ад надакучлівага распаўсюджвальніка я не адзінокая. Некаторыя пасажыры таксама спяшаюцца адвярнуцца, "раптам" ацаніўшы прыгажосць прыдарожнага ландшафту. Напэўна, у гэты момант мы перажываем адно і тое ж пачуццё: пачуццё няёмкасці за чалавека, які імкнецца навязаць стомленым і заматаным людзям сумніцельнае чціва. Прынамсі, аднадзве рукі цягнуцца да кішэні па пяцірублёўкі — дарога ўсё ж доўгая....

...Калі за маладым чалавекам зачыняюцца дзверы, нейкая жанчына літаральна ўзрываецца:

— Як не сорамна! Я хворы чалавек, еду на дачу. Думала адпачыць, а зараз настрой на цэлы дзень сапсаваны. Як падумаю, што вечарам трэба вяртацца адной на станцыю... І хто ім дазваляе такое прадаваць?

Адразу знаходзіцца апанент:

— Вам бы толькі забараняць... Назабараняліся ўжо. Хіба ад гэтага стала менш усялякай дрэні? Няхай пішуць, няхай прадаюць. Гэта іх справа. А вы можаце купляць ці не купляць.

Спрэчка скончылася. Кожны застаўся пры сваіх інтарэсах. І па-свойму меў рацыю.




Самае цікавае, што трупамі і мардабоем нас ужо не здзівіць. Яны ўвайшлі ў жыццё (рэальнае і кніжнае) так трывала, як, прабачце, некалі недасягальная "пепсі-кола". Пра чарговую ахвяру якога-небудзь вырадка мы расказваем, быццам пра навагодні пірог, успамінаючы, як ён быў нарэзаны: маленькімі кавалачкамі ці вялікімі.

Спакон веку смерць з'яўлялася для чалавека таямніцай,недаступнай розуму, і перад тварам яе аднолькава трапяталі і цар, і гандляр, і воінскі начальнік. Чужая смерць і палохала,і прыцягвала людзей, але не пакідала раўнадушнымі...

Сёння трагедый адбываецца столькі, што той-сёй "народны ўмелец" проста не можа не паставіць справу на канвеер. Такім чынам, самыя жудасныя, самыя брудныя факты становяцца набыткам грамадскасці. Страва, замяшаная на раздзіраючых душу падрабязнасцях, ад якіх валасы дуба ўстаюць, разлічана яўна на гурманаў. Той, хто паспытае гэтай крывавай мешаніны з адрэзанымі вушамі і адпіленымі пальцамі выпадкова, у разлік не прымаецца. Нічога дзіўнага, калі сутыкаешся ў двары з кампаніяй васьмігадовых карапузаў, што абляпілі свайго "начытанага" таварыша і з адкрытымі ратамі слухаюць ашаламляльны аповед пра тое, як "ён яе спачатку прыдушыў, потым у ванне ўтапіў, потым разрэзаў на кавалкі і зварыў". "І з'еў?"— недаверліва пытаюцца юныя слухачы. "Не. Кінуў ва унітаз і змыў".

У чарзе, дзе мы праводзім большую частку вольнага часу, не-не, ды і пачуеш ад якой-небудзь бабулі неверагодную гісторыю ("сама чытала!") пра пяць трупаў, знойдзеных у лесе за горадам. (Трэба думаць, што як мінімум тры з іх — плод яе фантазіі). Затое які эфект! Чарга хвалюецца, даходзіць нават да абсурду: "А што вы думаеце? Вось стаім па каўбасу — а з чаго яна зробленая? На адным заводзе, кажуць, бандыты людзей забівалі і з іх потым сасіскі рабілі". Ну ці не хвароба гэта? Ці не нейкае агульнае вар'яцтва?

...НАТУРАЛЬНА, што прапанова з'яўляецца там, дзе ўзнікае попыт. І я, у прынцыпе, нічога не маю супраць тых, хто захапляецца дэтэктывамі , як і супраць тых, хто гатовы знаходзіць і пастаўляць на спажывецкі рынак крымінальную прадукцыю. (Дай Бог толькі, каб была яна добрай якасці).

Але навязваць — навошта?

У цывілізаваным грамадстве, да якога мы так інтэнсіўна імкнёмся быць падобнымі, дэмакратыя дапускае не толькі свабоду ўчынкаў, але і адказнасць за гэтыя ўчынкі, не толькі магчымасць выдаваць якую захочаш прадукцыю, але і магчымасць што хочаш выбіраць.

Нам, хто крычыць пра дэмакратыю на ўсіх перакрыжаваннях, выбіраць практычна не прыходзіцца. Не згодны? Тады адкажыце, што лепш: "Труна з Ганконга" ці "Смерць у аблоках"? "Двайны ўдар" ці "Крывавая помста"? І хто ўсё ж такі больш няшчасны: мама, якую штодзённа прапануюць скінуць з поезда, або той, хто сядзіць у зале кінатэатра і глядзіць абсалютна не смешную кінакамедыю, дзе ўсе са скуры вон лезуць, каб было смешна. А атрымліваецца сумна. Таму што маму з поезда скідаць нельга. Нават калі яна ўвесь час чымсьці незадаволеная. Праўда, гэта мая асабістая думка. Некаторыя лічаць інакш. Напрыклад, адзін малады чалавек узяў і выкінуў сваю бабульку з акна восьмага паверха. (Я не жартую). Проста ўнук прыйшоў дадому са школы ў нейкім дзіўным стане і ад яго чамусьці несла перагарам. Бабулька не паверыла ў казку пра тое, што на ўроку хіміі на ўнука выпадкова перавярнулася спіртоўка. І такім чынам падпісала сабе смяротны прыгавор. Гэта зусім не смешна і нават не сумна. Гэта страшна!

Мы вельмі любім і зацёрлі ўжо разумнае выказванне пра тое, што трэба, маўляў, па кроплях выціскаць з сябе раба. Але, "выціснуўшы" аднаго, мы рызыкуем вызваліць месца другому,ператварыўшыся або ў ахвяру вечнага страху, або ў нелюдзя.

НЕКАЛІ даўным-даўно, у часы маладосці маёй мамы, людзі, кажуць, цягнуліся адзін да аднаго. Зараз яны адзін аднаго баяцца. Сіла і насілле, якія ўваходзяць у наша жыццё з парадняга пад'езда, нараджаюць пачуццё бездапаможнасці, няўпэўненасці і страху. Не ва ўсіх, але ў многіх. Цікавы выпадак здарыўся нядаўна ў маіх сяброў. Пакінуўшы дома пяцігадовую дачку, яны строга загадалі ёй на званок дзверы не адчыняць, пакуль той, хто прыйшоў, не назаве сваё імя, а таксама імёны і прозвішчы ўсіх бліжэйшых родных. Праз паўгадзіны ў дзверы пазваніла бабуля. "Ты хто?"— спытала Каця. "Адчыні, унучачка, гэта я". "А як тваё імя?" "Святлана Андрэеўна". "А прозвішча?" Бабуля адказала. "Ну а зараз скажы, як завуць маіх тату, маму, брацікаі дзядулю. І дзе яны працуюць. А то не адчыню". Беднай жанчыне нічога не заставалася, як паслухацца. Голасу бабулі (хоць і вельмі знаёмаму) дзіця вырашыла не даваяраць. "Ты магла яго падрабіць,— растлумачыла потым Каця,— а сама пасадзіла б мяне ў мяшок і занесла ў лес".

За праяўленую пільнасць бацькі аб'явілі Каці падзяку. І ўсё ж мне не хацелася б, каб у будучым мая дачка бачыла ў кожным незнаёмым чалавеку свайго патэнцыяльнага ворага, каб баялася выходзіць на вуліцу і запрашаць у дом сяброў.

Дарэчы, вы здагадваецеся, чаму ў час паказу жыццёвых калізій "Багатых..." ля экрана збіраецца шматтысячная аўдыторыя? Адказ просты: мы стаміліся ад бруду і жорсткасці, і нашы душы цягнуцца да святла і дабрыні.

Н. Стралкова.

*Гіт-парад*

# РОК – ГЭТА ПАЗІЦЫЯ

Як зімою не астывала гарачая беларуская дзесятка сумеснага музычнага праекта "ЧЗ-Liberty", гэтак і ўлетку страсці вакол беларускіх поп- і рок-зорак аказаліся, як кажуць, пад поўнай парай. 28 чэрвеня выйшаў у эфір на кароткіх хвалях восьмы выпуск нашага гіт-парада.



На здымку побач вы бачыце чарговага лідэра — рок-гурт "Мроя". Гэты калектыў стаў разам з тым і своеасаблівым рэкардсменам: палова нашых карэспандэнтаў, называючы сваіх куміраў, на тое або іншае месца ставіла "Мрою", з прычыны чаго гурт выйшаў уперад з вялікім адрывам.

Акрамя таго фаны "Мроі" аказаліся і найбольш самаадданымі. Вось, напрыклад, ліст нейкага А.Т. з Навапалацку, які падпісаўся... (што за чорная магія!) крывёю: "Гэй, вы чуеце мяне?! Я капітулюю! Я здаюся! Я не ведаю, што такое "Мроя", але яна цалкам завалодала маёю душой".

А Л.Мяцельская з Гомельшчыны папросту дасылае свае віншаванні: "З мінулымі і надыходзячымі святамі вас, спадары. А рок-гурт "Мроя" — з набліжэннем да Алімпу ў беларускім гіт-парадзе".

Пэўную незадаволенасць выказваюць прыхільнікі бардаўскай песні. "Проста дзіўна, — піша Б.Сцепанчук з Віцебска, — што ў вашым гіт-парадзе доўгі час не гучаў голас С.Сокалава-Воюша. Гэта ж асоба, гэта эпоха ў бардаўскім жанры на Беларусі, гэта жывая класіка. Я б назваў шмат любімых песень Сержука, але бачу, што нехта ўжо галасаваў за "Крупнік", таму вырашыў падтрымаць яго".

П.Агейчыка з Брэста асабліва турбуе лёс, як ён піша, "усеагульнага беларускага куміра з Нью-Йорка" Данчыка. "У адным з апошніх нумароў газеты "Беларус", — нагадвае ён, — анатаваўся найноўшы альбом гэтага выканаўцы, які мае назву "Мы яшчэ сустрэнемся". Невядома, калі гэтая кружэлка атрымае шырокае распаўсюджанне ў Беларусі, але многія песні адтуль ужо дастаткова вядомыя. Я галасую за цудоўны ўзор фальклору — песню "Харашуха", і, мяркую, не памыліўся ў выбары".

Сапраўды, менавіта на гэтую песню звярнулі ўвагу многія нашыя слухачы і чытачы, чаму спрыяла, відаць, трансляцыя "Харашухі" ў эфіры рэспубліканскага радыё.

Увогуле, цэлы шэраг аб'ектыўных і суб'ектыўных прычын па-свойму ўплывалі на расстаноўку лідэраў. У выніку табліца № 8 гіт-парада "ЧЗ-Liberty" атрымалася наступная:

1. "Я – рок-музыкант" (муз.і сл.калектыву) . "Мроя".
2. "Бюракрату з Дома ўраду" (муз.і сл.В.Цярэшчанка). Вальжына Цярэшчанка.
3. "Гаспадыня ранішняй зоркі" (муз.і сл.А.Камоцкага). Алесь Камоцкі.
4. "Народжаны тут" (І.Варашкевіч – З.Лукашук). "Рокіс".
5. "Крупнік" (муз.і сл.С.Сокалава-Воюша). Сяржук Сокалаў-Воюш.
6. "Харашуха" (беларускі фальклор). Данчык.
7. "Ліхадзеям на зло" ("Грунвальд" – А.Дэбіш). "Грунвальд".
8. "Які ж я беларус" (муз.і сл.З.Сідаровіча). "Грамада".
9. "Поскудзь" ("Дзіда" – В.Воліс, Л.Сом). "Дзіда".
10. "У музеі" (П.Піскуноў – М.Скобла). "Тутэйшыя хлопцы".

Восьмы выпуск адышоў у мінулае, але і лета, і гіт-парад працягваюцца. Калі вы хочаце і напрыканцы ліпеня скласці для сябе паўгадзінную праграму добрай беларускай музыкі на хвалях радыё "Свабода", дасылайце свае прапановы на адрас *Radio "Liberty", postfash 221425, D-8000, Muenchen, Germany* або нам, у "Чырвоную змену": *220041, Беларусь, Менск, пр.Францішка Скарыны, 77, "Нотны аркуш"*.

Вінцук Гуненка.

*Падзея*

## Свята рок-кнігі

У Доме літаратара адбылася прэзентацыя кнігі В. Мартыненкі і А. Мяльгуя "Праз рок-прызму". Наладзіў яе грамадска-асветніцкі клуб "Спадчына".

Двухгадзінная прэзентацыя вылілася ў зацікаўленую дыскусію па праблемах развіцця беларускамоўнай рок- і папулярнай музыкі. Былі прадстаўлены запісы рок-гуртоў "Бонда", "Уліс", "Крама", пасля праслухоўвання якіх прысутныя сышліся на думцы аб неабходнасці такой музычнай прадукцыі ў наш час.

На заканчэнне быў прыняты зварот ад імя ўдзельнікаў "Спадчыны" да міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь аб неабходнасці больш мэтанакіраванай прапаганды беларускамоўных выканаўцаў на нашым нацыянальным тэлебачанні і радыё.

А. Мітрановіч.



*Рэпліка*

## Шоу "па-вавілаўску"

Гэта гісторыя вельмі сумная, як жыццё беларускіх музыкаў. А справа ў тым, што...

Нехта на Беларускім тэлебачанні прыдумаў правесці конкурс "Лідэр-92". Цудоўна!.. Класна!.. Ура!!! Але запісаць якасныя фанаграмы маглі не ўсе маладыя выканаўцы, а наш славуты джазавы аркестр Фінберга гэтак іграў "папсу", што ў тэлевізарах чырванелі экраны. А.Д. Вавілаў, як сапраўдны вядучы, няшчыра ўсміхаўся і блытаў рускія ды беларускія словы. А калі конкурс скончыўся, роднае тэлебачанне ўмомант забылася пра Ю. Мудрыка, Л. Лукашэнку, "Алена" ды ўсіх астатніх пераможцаў, якім не далі аб'яўленых заахвочвальных прэмій. А яшчэ вядучы забыўся развітацца з удзельнікамі (гэта зрабіла за яго ўсё тая ж Л. Спірыдовіч).

А самі маладыя выканаўцы пакуль што "паляць бамбук": ніхто з іх да гэтага часу не прабіўся ў перадачы роднага Беларускага тэлебачання.

С. Хамякоў.



*Фанатэка*



### БРАЙАН АДАМС "У АГНІ"

Эй энд Эм рэкордс, 1987

У свой час гэты альбом музычная прэса ўсяго свету сустрэла даволі актыўна і прыязна, хоць нават нашаму айчыннаму слухачу былі вядомыя і ранейшыя працы спевака. Але рэгіянальныя поспехі і сусветная слава – усё ж розныя рэчы, таму мы выбралі аб'ектам сваёй увагі тое, што выклікала цікавасць не толькі да сябе, але і да папярэдніх работ. А дапаможа нам у гэтым рэцэнзія Кшыштафа Гіпша з тагачаснага (№ 27, 5.VII.1987) часопіса "Na przełaj".

"Ці мае шанцы "Начная слякота" стаць супер-гітам года? Мой ціхі фаварыт ад пэўнага часу, нарэшце, рушыў на поўную моц, пра што сведчыць ягоны знакаміты альбом "У агні", што стаў несумненнай падзеяй у цяжкарокавым свеце.

А між тым... Між тым Брайан Адамс зусім не дэбютант, мае на сваім рахунку пяць альбомаў, прададзеных у колькасці 12 мільёнаў экземпляраў, сярод якіх "Неразважлівасць" (1984) заблішчаў дыяментам, а тры іншыя кружэлкі пазалаціліся.

У роднай Канадзе спадар Брайан атрымаў вышэйшую ўзнагароду Juno Award (накшталт амерыканскай Grammy), пазней гастраляваў у сумесным турнэ з Тынай Тарнэр, якую, зрэшты, маглі чуць і бачыць на нашым тэлебачанні (гэтак сяго-таго збіраецца пакрысе, і аказваецца, што нашае шкляное акенца не зусім загнілае).

Музыку Адамс піша не толькі для сябе, але таксама гуртам "Прызм", "Бахман-Тарнэр-Овэрдрайв", "Кісс", "Ловербой", "38 Спешыал", а таксама Роджэру Далтры і Джо Кокеру. Быў сааўтарам твора "Ці не досыць слёз?", выкананага на ўзор "Band Aid" зоркамі канадскага рока ў акцыі на карысць дапамогі Эфіопіі. Прыняў удзел у вядомым "Live Aid" у Філадэльфіі, а пазней разам з "Ю 2", Стынгам, Пітэрам Гэйбрыэлам – у дабрачынным праекце пад назвай "Cospiracy of Hope".

Як ужо згадвалася, Брайан Адамс паходзіць з Канады, але ён – тыповы касмапаліт. Жыве ў Вялікабрытаніі, ЗША, Партугаліі і Ізраэлі... Ягоным пастаянным тэкставіком з'яўляецца Джым Валанс, які грае і на пяркусіі. Альбом "У агні" – гэта і ёсць іхні сумесны плён.

Дата нараджэння – 5.II.1959, месца нараджэння – Кінгстан. У ансамбль Б.Адамса ўваходзяць: Мікі Кары (бубны), Кэйт Скот (лідэр-гітара), Дэйв Тэйлар (бас-гітара). Сам опявак грае яшчэ і на клівішных".



### "СЯБРЫ" "ШУМІЦЕ, БЯРОЗЫ"

Мелодыя, 1985

Песня, што дала назву гэтаму альбому, шырока вядомая ва ўсім свеце, асабліва ў выкананні Данчыка, які ўключыў яе ў свой альбом "Я ад вас далёка" (1985). Праўда, твор быў напісаны Эдуардам Ханком на верш Ніла Гілевіча менавіта для "Сяброў", але гэты выканаўца куды менш асацыіруецца з беларускай культурай, чым сама песня.

"Сябры" актыўна працавалі ў той час, калі культура строга размяркоўвалася па наменклатурных разнарадках. Калі беларусы нечакана ўздымалі пытанне, чаму "ўсесаюзная" фірма "Мелодыя" нічога не робіць беларускага, ім заўсёды адказвалі: "А як жа? Вунь зрабілі вам дыскі "Песняроў", "Верасоў", "Сяброў"...".

Што ж, гомельскія "Сябры" амаль штогод выдавалі па кружэлцы і паводле ўсіх параметраў павінны былі служыць сімвалам беларускай дыскаграфіі хоць бы на ўсесаюзнай арэне. Але глянем на адзін з такіх дыскаў, які нібы дзве кроплі вады падобны на ўсю астатнюю "сяброўска-верасоўскую" прадукцыю.

На шматмоўнай вокладцы вы знойдзеце толькі адно беларускае слова – "сябры". Усё астатняе – па-расейску і па-ангельску. Праўда, з дзесяці песень чатыры ўсё ж належаць беларускім аўтарам ды яшчэ пара – рускім аўтарам з Беларусі. Але як можна было спадзявацца на патрыятычнае выхаванне сродкамі "беларускага" грамзапісу, калі на пытанне песні "Спроси, где мой дом" адказвала іншая песня выканаўцы – "Земля моя, Сибирь!".

Здаецца, навошта было ўзгадваць "справы даўно мінулых дзён", тым больш, што такой творчай адзінкі, як ансамбль "Сябры", ужо не існуе, а наваствораная студыя "Сябры" ўзяла пад сваё крыло беларускамоўных выканаўцаў?

Аднак жа, хоць дні, як кажуць, "даўно мінулі", але сітуацыя беларускага грамзапісу зусім не змянілася. Пакуль суверэнная Беларусь нават у планах не прадбачвае вырашэння гэтага пытання.

Калі нават масціты Лявон Барткевіч вымушаны быў шукаць дапамогі ў ЗША (маем на ўвазе фірму "Electronova productions", якая выпусціла ўжо другі ягоны альбом "Спявай мне, дзяўчынка"), дык хто дапаможа цяперашнім падапечным студыі "Сябры", маладым гуртам "Крама", "Белбойз" ды іншым?




### "ГАЗ" "МУЗЗАБЕСПЯЧЭННЕ"

Гуд нойс, 1982

Заходненямецкі рок шырокая публіка ведае, на жаль, пераважна з творчасці камерцыйных зорак шоу-бізнесу накшталт "Асэпт", "Скорпіёнс", "Варлок", "Рэтлз", "Фэйсфул Брэс", "Ікзюмер" і г.д. А гэта пераважна англамоўныя калектывы, якія не здольныя прадставіць культуру свайго народа. Разам з тым папулярныя эстрадныя выканаўцы Удо Ліндэнберг або Моніка Ланг не ўяўляюць сабой прадстаўнікоў рок-напрамку ў музыцы.

І ўсё ж гэта не азначае, што рок на нямецкай мове немагчымы. Бо якраз адваротнае цудоўна давяла брытанская рок-зорка Сюзі энд "Зэ Бэншыз", якая стварыла некалькі гітаў на нямецкай мове. Нямецкія версіі сваіх твораў рабіў і сусветнавядомы Стынг. Дык няўжо ж пасля гэтага маглі маўчаць самі немцы.

А яны, натуральна, не маўчалі. Яшчэ з пачатку 80-х маладое пакаленне нямецкіх рокераў у процівагу камерцыйным тэндэнцыям амерыканізаванага айчыннага рока пачалі ствараць нацыянальны рок-рух. Гэтая плынь, куды ўвайшлі такія гурты, як "GAS", "DAF", "X-mal Deutschland", "Einsturzende Neubauten", "Palais Schaumburg" ды іншыя, атрымала назву "Neuen Deutschen Welle" ("Новая нямецкая хваля"). Іхняя музыка, трэба сказаць, прынесла ім поспех, яна захапіла ўсю Еўропу. На той час упершыню неангламоўныя калектывы з такім імпэтам заатакавалі нават брытанскія спісы гіт-парадаў і мелі немалы поспех.

Адзін з гуртоў гэтай плыні – берлінскі "Газ" – стылістычна належыць да пост-панкаўскай хвалі. У ягоны склад уваходзяць Гэйнц Оскар Прэйбш (вакал, саксафон), Франк Люхс (клавішныя, вакал), Рональд Кух (гітара), Манфрэд Шульцке (бас-гітара, вакал), Дэтлеф Охс (бубны), Эндзі Ротэ (гукарэжысёр). Трэба сказаць, што ў кампазіцыі "Pauschalsafari" месца асноўнага вакаліста займае не Гэйнц Оскар Прэйбш, як заззвычай, а Манфрэд Шульцке, які ў астатніх нумарах спявае толькі на падпеўках.

Усе кампазіцыі належаць аўтарству клавішніка Франка Люхса. Па-за названым творам у альбом уваходзяць яшчэ дзевяць песень: "Самаперапрацоўка", "Цалкам зняволены", "Рытмічны дэбіл", "Мядзвежы нюх", "Калі ты прыйдзеш", "Поп-шоу", "Тэлевытворчасць у Нямеччыне", "Маленькая справа" і – візітная картка гурта – кампазіцыя "Газ".

Альбом запісаны ў маі 1982 года ў заходнеберлінскай студыі "Musiclab" рэжысёрам Гарысам Джонсам. Прадзюсіраваў яго Манфрэд Шык і Герд Пеэцкель.

Мастацкая аздоба належыць усё таму ж Франку Люхсу, а на зваротным баку – фота Петэра Грухата і Арміна Гаазэ.

Вольга Акуліч

# НАТАЛЛЯ

## ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ



Большасць фантастычных падзей адбываецца чамусьці ўлетку, але выпадак, пра які пойдзе гаворка, здарыўся зімой, і не абыякой, а снежнай і халоднай як ніколі. З першага погляду нічога надзвычайнага не адбылося: у дзевяты "А" адной з сярэдніх — нават зусім сярэдніх школ прыйшла новая дзяўчынка. Дзевяты "А" нічым не вызначаўся з ліку іншых дзевятых класаў нашага горада: такі ж неаднародны па сваім складзе, прычым "вопытнейшая" палова класа пагардліва звала астатніх дзеткамі, а тыя адказвалі абыякавасцю ці кпінамі. Клас, як бачыце, самы звычайны. "Новенькая" з першага погляду таксама здавалася звычайнай, абсалютова непрыкметнай "як усе". Яе цяжка было назваць прыгожай. Дакладней — яна была дзеля гэтага занадта класічнай. У Наталлі — так яе звалі (імя, як вядома, досыць папулярнае) — былі шыкоўныя густыя валасы і гладкая, чыстая скура твару: ані звычайнага ў такім узросце прышчыка, ані радзімкі. А рысамі і выразам твару "новенькая" нагадвала якую-небудзь антычную статую. Зразумела, заўважыць гэта мог толькі той, хто цікавіцца антычным мастацтвам, а такіх у дзевятым "А" не назіралася якраз з тых часоў, як адзіны ў класе выдатнік перайшоў у спецматэматычны дзевяты "Б". Адметнасці Наталлі маглі б быць заўважаны, калі б яна пачала вучыцца на "выдатна", але "новенькая", слабая троечніца, заваявала поўны давер аднакласнікаў.

Як ужо адзначалася, зіма была снежнай і халоднай. Але "вопытнейшай" палове класа гэта, здавалася, не замінала праводзіць "на свежым паветры" большую частку содняў. Наталля спачатку была частым, каб не сказаць заўсёдным удзельнікам агульных пагулянак. Ды толькі ўжо праз тыдзень яе прысутнасць стала чыста сімвалічнай: "новенькая" збягала дадому літаральна праз пятнаццаць хвілін. Справы і ўрокі не служылі пераканаўчым апраўданнем і, параіўшыся між сабой, "аўтарытэты" дзевятага "А" аднадушна вырашылі: "Бацькоўскі прыгнёт. Дзеўку трэба ратаваць".

Вось тут, як кажуць, і пачынаецца інтрыга. Выратаванне Наталлі даручылі самаму мужнаму чалавеку ў класе з не менш мужным імем Віктар. Выяўлялася ягоная выключная мужнасць у тым, што з сёмага класа Віктар адрошчваў валасы (у простанароддзі —"хаер"), не рэагуючы на прэсінг з боку бацькоў і рэпрэсіі педагогаў. Акрамя таго, Віктар іграў у самадзейным рок-гурце і нават пісаў тэксты, якія, праўда, не могуць быць рэкамендаваныя масаваму чытачу не столькі з-за процьмы розных памылак, колькі з-за пэўных разыходжанняў у поглядах на дапушчальныя ў грамадстве выразы. Відавочна, Віктар — персона самая падыходзячая для інтрыгі.

План дзеянняў быў просты і цалкам лагічны. У першую чаргу належала пераканаць Наталлю ў немагчымасці "такога жыцця", і калі аб'ект канчаткова "саспее", неабходна стварыць прэцэдэнт — скажам, паездку альбо вандроўку, вядома на некалькі дзён і без бацькоў. А потым справа пойдзе лёгка... Такім чынам, Віктар выказваў Наталлі перабольшаную ўвагу, а аднакласніцы прыкладалі ўсе намаганні, каб незнарок не выказаць зайздрасці. Праз пэўны час у класе пачаліся размовы пра вакацыі і ўсё, што з імі звязана. На поўным сур'ёзе збіралася кампанія на зімовую вандроўку. Тым, каго засмучала дужа мінусавая тэмпература, пагардліва казалі: "А мы нікога не цягнем, сядзі дома, ля мамкінай спадніцы, цяплей будзе". А "дзетак" ніхто і не запрашаў. Такім чынам, да пачатку вакацый кампанія была складзена, абавязкі падзелены і ежа закуплена. І нават Наталля пасля працяглых размоў, пераважна з Віктарам і сам-насам, дала сваю згоду.

Трэба сказаць, што ранак, прызначаны для пачатку вандроўкі, быў яшчэ халаднейшым за папярэднія. Але ці то з гордасці, ці з упартасці вырашылі планаў не мяняць і рушылі дакладна ў абраны раней час. У электрычцы і на першых кіламетрах пешага ходу некаторыя яшчэ жартавалі і смяяліся, але потым ваяўнічы настрой пачаў кудысьці знікаць. Аднак прапаноў вярнуцца не паступала: падлеткавая прага самасцвярджэння гнала наперад. Наталля маўчала. Яна не здавалася ні стомленай, ні змерзлай, толькі тварам яшчэ больш нагадвала мармур антычных скульптур, а можа, гіпс іх копій.

— Не зімна? — Віктар зняў цёплую рукавіцу і крануўся Наталлінай шчакі. Рука была цёплая.

— Не, нават спякотна...

Ён адчуў сябе так, быццам дакрануўся да каменя ці халоднага металу. Адняў руку і захваляваўся:

— Што з табой?

— Табе падалося.

І раптам Віктар зразумеў: не, не падалося, нешта тут не так.

— Неба! Зірніце, што з ім!— закрычала нейкая дзяўчына і ніхто не стаў разбірацца нават, якая. Пятнаццаць пар вачэй зірнулі ўгору. Там, на небе, пагрозліва зіхцела чорным, якога дагэтуль ніхто не бачыў, святлом хмара. І, быццам разварушаны людскім жахам, пайшоў снег, такімі густымі і цяжкімі камякамі, якіх ніколі за сваё жыццё не бачылі шаснаццацігадовыя людзі.

— Назад! Трэба вяртацца, праз гадзіны дзве будзем на станцыі,— нехта крычаў і не ўсе яго чулі, хутчэй здагадваліся: снег паглынаў гукі, прыносіў абыякавасць.

— Куды, куды ісці, калі сляды замяло, снег вочы слепіць, а яшчэ хвілін пятнаццаць — і яго намяце столькі, што і за дзень па такім снезе не дойдзеш! Куды ісці?!

Дзяўчаты пачалі бясслёзна скуголіць. Снег ішоў. Разгубленасць і страх не знікалі. Наталля кранула Віктара за руку:

— Абяцай, што калі ўсё скончыцца, данясеш мяне дадому.

— Абяцаю,— і падумаў: "Калі змагу".

— Зможаш. А зараз пачакай, праз пяць хвілін — толькі скончыцца снег, пойдзеш па маім следзе,— і амаль пабегла кудысьці ў глыбіню лесу, правальваючыся ў сумёты.

Чатырнаццаць пар вачэй глядзелі ўслед. Ніхто не паспеў нават здзівіцца, калі раптоўна скончыўся снегапад. Стала цёпла, і снег стаў цёплы, як бутафорскі, пенапластавы, на агульнагарадскіх ранішніках. Толькі гэты снег быў цвёрдым, і Наталліны сляды адбіліся на ім, як на белым гіпсе. Віктар моўчкі, бы пад уплывам нейкага прадчування, як лунацік, нягледзячы пад ногі, паглыбляўся ў лес.

Трынаццаць чалавек пачулі ненатуральны крык і адначасова, сінхронна кінуліся наперад. Мабудзь, пад адзінай у хваёвым лесе бярозай ляжала вялікая, у чалавечы рост, лялька. Яна больш за ўсё была падобна на надзіманую гумавую цацку, і толькі адзенне гаварыла за тое, што гэта — Наталля. А побач ляжаў непрытомны Віктар.

Узняўся звычайны вэрхал, мітусня, якая заўсёды пачынаецца, калі звычайныя людзі трапляюць у незвычайныя абставіны. Праз пэўны час хлопец ачуняў, хутчэй насуперак, чым дзякуючы намаганням аднакласніц. Ён зірнуў сумна і вымавіў бы праз сілу:

— Гэта яна нас выратавала. Я абяцаў данесці яе дадому,— сказаў — і зусім па-дзіцячы заплакаў.

Лялька была няцяжкая. З прысутных толькі Віктар рызыкнуў узяць яе ў рукі. Кампанія ішла моўчкі, ніхто не меў сіл нават думаць пра тое, што адбылося. Потым, стаўшы дарослымі, яны будуць доўга вырашаць, што ўратавала іх ад вар'яцтва: дзіцячая нясталасць розуму альбо звышмерная стома — і так ніколі і не зразумеюць. Холад не адчуваўся, напэўна, сапраўды пацяплела. Да станцыі, а пасля да горада дабраліся без прыгод. Электрычка, за ёй вакзал, былі надзіва бязлюднымі. Кінуўшы рэчы на клопат сяброў, Віктар пайшоў да Наталлінага дома адзін. Звонку ўсё выглядала амаль нармальна: па пустынным горадзе ішоў хлопец і трымаў у руках асцярожна і нават пяшчотна, нейкую анучу. І выпадковы назіральнік ніякім чынам не змог бы зразумець, што вядзе хлопца нешта невядомае яму самому, што не мае імя між людзей.

Ні праз гадзіну, ні праз год Віктар не ўспомніць, як знайшоў ён Наталліну кватэру, у якой дагэтуль не быў ні разу, як націснуў кнопку званка. І , вядома, не ўзгадае, што казалі тыя, хто адчыніў дзверы, і як яны выглядалі...

У першы дзень заняткаў пасля вакацый маладзенькая і, відавочна, добра адпачыўшая "класная" паведаміла абсалютна звычайным тонам, што Наталля больш не будзе вучыцца ў дзевятым "А", бо з'ехала дамоў разам з бацькамі. Гэтае "дамоў" чамусьці супакоіла кампанію: не было ні ўзгадак пра вандроўку, ні размоў пра Наталлю. І толькі Віктар змяніўся, кінуў свой гурт, і цікаўныя дзеўкі, зазірнуўшы на перапынку ў ягоны сшытак, знаходзілі ў ім сумбурныя, сумныя вершы. І ніхто так і не змог зразумець, што гэта ўсяго толькі спробы ўзгадаць размову з жыхарамі Наталлінай кватэры.

## *Кінаафіша*

### "ЗАКІНУТЫ Ў СІБІРЫ"

Так называецца новая каляровая мастацкая кінастужка, створаная сумесна кінематаграфістамі Англіі і "Масфільма". Пастаноўку карціны ажыццявіў вядомы рэжысёр Аляксандр Міта паводле сцэнарыя, напісанага ім у садружнасці з Валерыем Фрыдам і Юрыем Каратковым.



Каханне і ГУЛАГ – што можа быць больш ненармальным? І не простае каханне, а класічны трохвугольнік: яна, лагерын урач Ганна Ільінічна, і два закаханых. Адзін – зэк, другі – начальнік лагера, капітан НКУС. Сапернікі няроўныя, але Ганна выбірае "дахадзягу" і будзе ратаваць яго ад смерці ўсімі магчымымі спосабамі. У тым ліку і такімі, якія для жанчын здаюцца немагчымымі...

Цікавыя вобразы ствараюць у фільме Энтані Эндрус, Алена Маёрава і Уладзімір Ільін.

### "АФГАНЕЦ"

Гэту новую каляровую мастацкую кінастужку знялі кінематаграфісты студыі "Котра Балт" з удзелам Кіеўскай кінастудыі імя А.П. Даўжэнкі. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр-пастаноўшчык – Уладзімір Мазур. Гэта ягоны дэбют у кіно.

Карціна распавядае пра трагічны лёс маладога воіна, які трапіў у палон да душманаў.

...З шасцярых асуджаных у жывых застаўся адзін. Адзін салдат, адзін сын, адзін каханы, адзін прыгожы і малады. Лёс падараваў яму жыццё. Але навошта? Каб быць забітым у палоне? Ці, што яшчэ горш, дабраўшыся да роднай краіны, на пятнаццаць гадоў трапіць за краты?..

У галоўных ролях зняты Пётр Яраш, Максім Дрозд, Андрэй Кашкараў, Мікалай Коўбас, Аляксандр Літоўчанка, Саід Махмуд і іншыя.

### "ЧОРТ"

Карціна знята рэжысёрам Віталіем Дудзіным на беларускай відэакінастудыі "Арцель Ф" паводле сцэнарыя Міхаіла Варфаламеева.

У жанры фантасмагарычнай кінакамедыі фільм распавядае пра тое, як Чорт, прыйшоўшы на зямлю і сустрэўшыся з людзьмі, не вытрымаў чалавечай подласці і нізасці і пачаў прасіць дазволу ў тых, хто яго паслаў, назаўсёды пакінуць гэты "райскі куток".

Галоўных герояў іграюць Аляксандр Ткачонак, Віктар Ракаў, Алена Кучарэнка, Майя Булгакава, Ніна Бусатава, Валянцін Букін.

Дзяжурны рэдактар П. СІМАНАЎ.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК ЛКСМБ
Выдавец: газетна-выдавецкая фірма "Белая Русь"
Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс 63906. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар Уладзімір БЕЛЬСКІ.



Зак. № 27.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12